ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 25 (2551)
ПЯТНІЦА
18
чэрвеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Трыццаць гадоў назад першыя выбухі вайны грымнулі на нашай зямлі. Даўно зараслі муравой варонкі і траншэі, загаіліся, зарубцаваліся раны зямлі. Але раны чалавечай памяці — незагойныя...

Гэтая карціна В. Грамыкі—пра Памяць. Пра тых, хто не прыйшоў з вайны. Пра боль і страты, пра подзвігі і Перамогу.

# НЕПАРУШНАЕ АДЗІНСТВА

*З ПАВЕДАМЛЕННЯ ЦЭНТРАЛЬНАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР*

*Аб выніках выбараў у Вярхоўны Савет Беларускай ССР восьмага склікання*

У нядзелю, 13 чэрвеня 1971 года, у Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР.

Гэта выбарчая кампанія праходзіла ў абстаноўцы вялікага працоўнага і палітычнага ўздыму, усенароднай барацьбы, якая шырока разгарнулася за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС, за датэрміновае выкананне планаў першага года дзевятай пяцігодкі. Усюды ў рэспубліцы выбары прайшлі арганізавана, пры высокай актыўнасці выбаршчыкаў. Выбары з новай сілай прадэманстравалі трыумф савецкай дэмакратыі, маналітную згуртаванасць беларускага народа вакол Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, непарушнае адзінства блоку камуністаў і беспартыйных.

Цэнтральная выбарчая камісія атрымала ад усіх 425 акруговых выбарчых камісій канчатковыя даныя аб выніках выбараў у Вярхоўны Савет Беларускай ССР і ўстанавіла, што ва ўсіх акругах выбары праведзены ў поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі Канстытуцыі БССР і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Савет Беларускай ССР».

Паводле даных акруговых выбарчых камісій, агульная колькасць выбаршчыкаў па рэспубліцы склала 5.875.569 чалавек, з якіх прынялі ўдзел у галасаванні 5.874.561 чалавек, або 99,98 працэнта ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. Ва ўсіх выбарчых акругах за кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР галасавала 5.871.319 чалавек, што складае 99,94 працэнта ад колькасці выбаршчыкаў, якія прымалі ўдзел у галасаванні. Супраць кандыдатаў у дэпутаты галасавала 3.238 выбаршчыкаў.

На падставе артыкула 79 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Савет Беларускай ССР» прызнаны несапраўднымі 4 выбарчыя бюлетэні.

Разгледзеўшы матэрыялы па кожнай выбарчай акрузе, Цэнтральная выбарчая камісія на падставе артыкула 38 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Савет Беларускай ССР» зарэгістравала выбраных дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР восьмага склікання па ўсіх выбарчых акругах.

У Вярхоўны Савет БССР выбрана 425 дэпутатаў. У ліку выбраных дэпутатаў 112 рабочых, або 26,4 працэнта, 102 калгаснікі, або 24,0 працэнта, а ўсяго рабочых і калгаснікаў 214 чалавек, або 50,4 працэнта. Сярод выбраных дэпутатаў членаў і кандыдатаў у члены КПСС 296 чалавек, або 69,6 працэнта, беспартыйных 129 чалавек, або 30,4 працэнта; жанчын 157 чалавек, або 36,9 працэнта; моладзі ва ўзросце да 30 гадоў—71 чалавек, або 16,7 працэнта. З агульнай колькасці выбраных дэпутатаў 336 чалавек, або 79,1 працэнта не з'яўляліся дэпутатамі мінулага склікання.

# Сяргей Осіпавіч ПРЫТЫЦКІ

## АД ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС, ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР І САВЕТА МІНІСТРАЎ СССР

**Цэнтральны Камітэт КПСС, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савет Міністраў СССР з глыбокім жалем паведамляюць, што 13 чэрвеня 1971 года пасля цяжкай хваробы памёр Сяргей Осіпавіч ПРЫТЫЦКІ — член Цэнтральнага Камітэта КПСС, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КПСС
ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР
САВЕТ МІНІСТРАЎ СССР

## АД ЦК КП БЕЛАРУСІ, ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР І САВЕТА МІНІСТРАЎ БССР

**Цэнтральны Камітэт КП Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і Савет Міністраў БССР з глыбокім жалем паведамляюць камуністам і працоўным рэспублікі, усяму беларускаму народу, што 13 чэрвеня 1971 года на 59-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр вядомы дзяржаўны дзеяч, выдатны арганізатар партыйнага і савецкага будаўніцтва ў Беларусі, член ЦК КПСС, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, член Бюро ЦК КПБ, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР і дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Сяргей Осіпавіч Прытыцкі.**

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КП БЕЛАРУСІ
ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР
САВЕТ МІНІСТРАЎ БССР

# ФЕСТЫВАЛЬ ТЭЛЕФІЛЬМАЎ АДБУДЗЕЦЦА Ў МІНСКУ

Восенню гэтага года ў сталіцы Беларусі адбудзецца чацвёрты Усесаюзны фестываль тэлевізійных фільмаў.

Вось што расказаў аб гэтым творчым спаборніцтве карэспандэнту БЕЛТА намеснік старшыні аргкамітэта фестывалю, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні В. П. Палескі:

— Фестываль будзе праходзіць у памяшканні акруговага Дома афіцэраў з 3 па 10 кастрычніка. Для ўдзелу ў ім у Мінск з'едуцца прадстаўнікі студый тэлебачання з брацкіх рэспублік, прадстаўнікі кінастудый краіны, якія выпускаюць фільмы па заказе Цэнтральнага тэлебачання СССР, вядомыя акцёры, крытыкі, кінарэжысёры.

Для падрыхтоўкі і правядзення фестывалю створаны арганізацыйны камітэт пад старшынствам першага намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў СССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні тав. Мамедава Э. Н. У склад аргкамітэта ўвайшлі адказныя работнікі саюзнага і беларускага тэлебачання, саюзаў журналістаў і кінематаграфістаў СССР.

Аргкамітэту трэба будзе правесці значную работу. Аб маштабах яе можна меркаваць хоць бы па такім прыкладзе. Для таго, каб адабраць на конкурсны паказ найбольш дастойныя карціны, трэба будзе прагледзець каля 350 дакументальных стужак, фільмаў-спектакляў, музычных і мастацкіх фільмаў. Сярод апошніх— ужо добра вядомыя тэлегледачам «Ад'ютант яго правасхадзіцельства» («Масфільм»), «Быў месяц май» («Экран»), «Сэрца Банівура» (кінастудыя імя Даўжэнкі), «Трывожныя ночы ў Самары» (Куйбышаўская студыя тэлебачання), а таксама новая работа беларускага тэлебачання — трохсерыйны фільм «Уся каралеўская раць».

У задачы фестывалю ўваходзіць не толькі падвядзенне вынікаў тэлевізійнай кінавытворчасці апошніх гадоў (паводле існуючага становішча, фестывалі праводзяцца адзін раз у два гады) і вызначэнне пераможцаў. На творчых дыскусіях адбудзецца сур'ёзная размова аб перспектывах кінавытворчасці на тэлебачанні, аб звязаных з ёю праблемах, аб тым, як глыбока і ў высокамастацкай форме паказаць у творах, знятых на кінастужку, вобраз нашага сучасніка.

Ацэнку конкурсным работам будзе даваць не толькі журы, складзенае з кваліфікаваных спецыялістаў тэлебачання і кіно. Рэжысёры, сцэнарысты і акцёры выступяць са сваімі фільмамі перад рабочымі, калгаснікамі, студэнтамі, выслухаюць іх думку. У адрозненне ад практыкі кінафестываляў роля дадатковага — завочнага —журы будзе прапанавана шырокай глядзельнай аўдыторыі (для яе Беларускае тэлебачанне арганізуе паказ у эфіры ўсіх прадстаўленых твораў). Перад тэлегледачамі Беларусі таксама выступяць майстры савецкага кіно— госці фестывалю і многія яго ўдзельнікі.

Завершыцца фестываль уручэннем прызоў, дыпломаў і іншых узнагарод пераможцам і вялікім канцэртам, які будзе трансліравацца па першай праграме Цэнтральнага тэлебачання на ўсю краіну.

Няма сумнення ў тым, што чацвёрты ўсесаюзны агляд-спаборніцтва адыграе вялікую ролю ў справе далейшага развіцця вытворчасці фільмаў на савецкім тэлебачанні і павышэння іх ідэйна-мастацкага ўзроўню.

БЕЛТА.

# НЕАД'ЕМНАЕ АД МАСТАЦТВА

*З ПЛЕНУМА ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА МАСТАКОЎ БССР*

**ЧАРГОВЫ пленум праўлення Саюза мастакоў БССР, які працаваў 9 і 10 чэрвеня г. г., быў прысвечаны пытанням развіцця беларускага мастацтвазнаўства і крытыкі.**

Адкрыў пленум старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. Грамыка. Ва ўступным слове ён адзначыў, што партыя заўсёды надавала вялікую ўвагу ролі крытыкі і мастацтвазнаўства ў развіцці савецкага выяўленчага мастацтва. Гэта падкрэслена ў шматлікіх дакументах партыі, у тым ліку ў прывітальным пісьме ЦК КПСС III з'езду савецкіх мастакоў, у справаздачным дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Ільіча Брэжнева на XXIV з'ездзе КПСС.

В. Грамыка коратка прааналізаваў шлях, які прайшлі беларускае мастацтвазнаўства і крытыка за апошнія гады, адзначыў несумненныя поспехі ў рабоце мастацтвазнаўцаў і звярнуў увагу пленума на тое, што, нягледзячы на асобныя поспехі, агульны ўзровень беларускага мастацтвазнаўства і крытыкі адстае ад узроўню беларускага выяўленчага мастацтва.

З дакладам «Задачы секцыі мастацтвазнаўства і крытыкі Саюза мастакоў БССР у развіцці беларускага мастацтвазнаўства» выступіў старшыня секцыі мастацтвазнаўства і крытыкі Саюза мастакоў БССР А. Сурскі.

— Мастацтва і мастацтвазнаўства, — сказаў А. Сурскі, — крытыка і практыка — раўнапраўныя бакі нашага мастацкага жыцця. Яны ўзаемна дапаўняюць, развіваюць, узбагачаюць адзін аднаго, і калі адзін з бакоў гэтага непарыўнага адзінства ігнаруецца альбо пераважае над другім, гэта адмоўна адбіваецца на развіцці мастацтва ўвогуле.

У справаздачным дакладзе ЦК КПСС асобна агаворваецца, што ідэалагічная дзейснасць мастацкай творчасці шмат у чым залежыць ад сталасці і актыўнасці мастацкай крытыкі.

Аднак усе мы разумеем, працягвае дакладчык, што быць аб'ектыўнай і дзейснай мастацкая крытыка можа толькі пры ўмове гарманічнага развіцця ўсіх ступеняў мастацтвазнаўства, усёй мастацтвазнаўчай навукі.

На жаль, на працягу даволі доўгага перыяду беларускае мастацтвазнаўства развівалася крыху аднабакова. Склалася своеасаблівая дыспрапорцыя паміж сур'ёзнай навуковай працай і крытыкай. У галіне крытыкі мы дасягнулі пэўных вышынь, а мастацтвазнаўчая навука пакуль застаецца занядбанай.

Дакладчык падкрэсліў, што мы да сёння не маем дакладнай фактаграфіі беларускага мастацтва, дрэнна ведаем яго гісторыю, вытокі, не даследавалі як след тую глебу, на якой вырасла нацыянальнае беларускае мастацтва. Мы дрэнна захоўваем помнікі мастацкай культуры, на якія багатая Беларусь, многія з іх гінуць проста на нашых вачах.

Без добрага ведання гісторыі, працягвае А. Сурскі, немагчыма дакладна асэнсаваць сённяшні стан мастацтва, той шлях, які яно прайшло ў сваім развіцці.



**13** ЧЭРВЕНЯ 1971 года пасля цяжкай хваробы памёр вядомы партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі, член ЦК КПСС, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, член Бюро ЦК КП Беларусі Сяргей Осіпавіч Прытыцкі.

С. О. Прытыцкі нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Гаркавічы былой Гродзенскай губерні ў сям'і селяніна-бедняка. Зведаўшы з дзіцячых гадоў нястачу, цяжкую працу на кулакоў і памешчыкаў, ён ужо ў юнацкім узросце ўключаецца ў актыўную рэвалюцыйную барацьбу працоўных Заходняй Беларусі супраць буржуазна-памешчыцкага ладу панскай Польшчы, узначальвае падпольныя камсамольскія арганізацыі, праяўляе сябе як смелы і мужны важак моладзі.

У 1932 годзе С. О. Прытыцкі ўступае ў рады Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, становіцца бясстрашным барацьбітом-камуністам. За рэвалюцыйную дзейнасць белапольскі суд у 1936 годзе прыгаварыў Сяргея Осіпавіча да пакарання смерцю. У выніку шырока разгорнутай барацьбы працоўных, якія выступілі з рашучым пратэстам супраць жорсткага прыгавору, пакаранне смерцю было заменена пажыццёвым турэмным зняволеннем. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі і ўз'яднання яе з Беларускай ССР С. О. Прытыцкі выбіраецца намеснікам старшыні Беластоцкага аблвыканкома. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён быў адным з актыўных арганізатараў партызанскага руху ў Беларусі і Польшчы супраць фашысцкіх захопнікаў.

Пасля заканчэння ў 1948 годзе Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС С. О. Прытыцкі выбіраецца другім, а затым першым сакратаром Гродзенскага абкома партыі, працуе намеснікам загадчыка аддзела ЦК Кампартыі Беларусі. З 1953 года ён узначальваў Баранавіцкую, Маладзечанскую, Мінскую абласныя партыйныя арганізацыі. У 1962 годзе С. О. Прытыцкі вылучаецца старшынёй Камітэта партыйна-дзяржаўнага кантролю ЦК КП Беларусі і Савета Міністраў Беларускай ССР, а з 1965 года працуе сакратаром ЦК КП Беларусі.

З 1968 года Сяргей Осіпавіч Прытыцкі —Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР усіх скліканняў, дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. На XXII, XXIII, XXIV з'ездах Камуністычнай партыі Савецкага Саюза выбіраўся членам ЦК КПСС.

За вялікія заслугі перад Радзімай С. О. Прытыцкі ўзнагароджан чатырма ордэнамі Леніна, двума ордэнамі Чырвонага Сцяга і многімі медалямі.

Усё сваё свядомае жыццё Сяргей Осіпавіч Прытыцкі прысвяціў служэнню народу, справе камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Высокая ідэйнасць, партыйная прынцыповасць і патрабавальнасць, чуласць і ўвага да людзей здабылі яму любоў і павагу працоўных.

Светлая памяць пра Сяргея Осіпавіча Прытыцкага — вернага сына Камуністычнай партыі і савецкага народа назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**Л. І. Брэжнеў, Г. І. Воранаў, В. В. Грышын, А. М. Касыгін, А. П. Кірыленка, Ф. Д. Кулакоў, Д. А. Кунаеў, К. Т. Мазураў, М. В. Падгорны, Д. С. Палянскі, А. Я. Пельшэ, М. А. Суслаў, А. М. Шалепін, П. Я. Шэлест, У. В. Шчарбіцкі, Ю. У. Андропаў, П. Н. Дземічаў, П. М. Машэраў, В. П. Мжаванадзе, Ш. Р. Рашыдаў, Д. Ф. Усцінаў, І. В. Капітонаў, К. Ф. Катушаў, Б. М. Панамароў, М. С. Саломенцаў, М. А. Ясноў, М. П. Геаргадзе, А. П. Шыцікаў, Я. С. Насрыдзінава, Ц. Я. Кісялёў, Л. Г. Кляцкоў, А. Т. Кузьмін, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, М. Н. Полазаў, І. Я. Палякоў, А. А. Смірноў, Ф. А. Сурганаў, У. І. Падрэз, І. М. Траццяк, М. С. Патолічаў, П. К. Панамарэнка, В. Ф. Шаура, М. В. Зімянін, С. А. Пілатовіч, Я. І. Скурко (М. Танк), І. Ф. Клімаў, Л. П. Чагіна.**

## Максім ТАНК:

# «ЁН БУДЗЕ ЖЫЦЬ У СЭРЦЫ НАРОДА...»

### ПРАМОВА НА ЖАЛОБНЫМ МІТЫНГУ, ПРЫСВЕЧАНЫМ ПАМЯЦІ СЯРГЕЯ ОСІПАВІЧА ПРЫТЫЦКАГА

Дарагія таварышы!

Бязлітасная смерць вырвала з нашых радоў Сяргея Осіпавіча Прытыцкага. Сёння ў вялікім смутку беларускі народ праводзіць у апошнюю дарогу свайго вернага сына, свайго нацыянальнага героя, свайго Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Імя яго даўно ўжо стала легендарным і сярод слаўных і заслужаных сыноў нашай Радзімы займае адно з самых пачэсных месц.

Сяргей Осіпавіч Прытыцкі належаў да тых людзей, якія ўсе свае сілы і здольнасці аддавалі высакароднай справе — служэнню свайму народу. Ён належаў да тых байцоў нашай ленінскай партыі, якія заўсёды непахісна стаялі на перадавой лініі барацьбы за ажыццяўленне яе ідэй.

Ён належаў да тых людзей, у якіх слова і справа ніколі не разыходзіліся, а высокая патрабавальнасць да сябе, сумленнасць і чалавечнасць, глыбокае пачуццё інтэрнацыянальнай дружбы і братэрства былі неад'емнымі рысамі яго характару, што выклікалі глыбокую пашану і любоў ва ўсіх, хто меў шчасце з ім сустракацца, працаваць і сябраваць.

Такім мы яго ведалі, калі ён, будучы юнаком, членам Кампартыі Заходняй Беларусі, ступіў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы супраць акупанцкага буржуазнага ладу панскай Польшчы, супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

Такім мы яго ведалі, калі ён за сваю рэвалюцыйную дзейнасць быў прыгавораны санацыйным судом да смяротнага пакарання, і толькі дзякуючы сваёй мужнасці, дзякуючы пратэстам мільёнаў працоўных ва ўсім свеце, каты вымушаны былі замяніць гэты прыгавор пажыццёвай катаргай.

Такім мы яго ведалі і ў незабыўныя верасnёвыя дні 1939 г., калі подыхам свабоды былі разбураны турэмныя краты яго адзіночкі, калі на Народным сходзе яго вуснамі працоўныя Заходняй Беларусі выказалі сваю непахісную волю — жыць у адзінай братняй сям'і савецкіх народаў.

Такім мы яго ведалі і ў суровыя гады вайны і ў пасляваенныя гады на многіх адказных пасадах яго шматграннай партыйнай, дзяржаўнай і грамадскай дзейнасці.

Жыццё Сяргея Осіпавіча Прытыцкага надзвычай багатае слаўнымі падзеямі, напоўнена глыбокім і хвалюючым зместам. Не дзіва, што ў народзе аб ім складалі песні, што не раз старонкі яго гераічнай біяграфіі прыцягвалі ўвагу многіх нашых мастакоў і пісьменнікаў.

Яго часта ўгаворвалі сябры, каб ён пра ўсё перажытае напісаў свае ўспаміны, бо ён і сам валодаў дарам таленавітага расказчыка і быў удзельнікам і сведкам шматлікіх гістарычных падзей. Але, на вялікі жаль, у яго не было часу для сябе, быў толькі час для другіх, час для неадкладных спраў і штодзённых людскіх клопатаў.

Цяжка паверыць, што мы сёння развітваемся з чалавекам, які смела глядзеў у вочы нягодам, не схіляўся ні пад якімі навальніцамі.

Адна з адозваў Кампартыі Заходняй Беларусі, калі панскім судом быў яму вынесены смяротны прыгавор, пачыналася словамі: «Прытыцкі мусіць жыць!»

— Прытыцкі будзе жыць! — гаворым мы сёння ў цяжкую хвіліну нашага расставання з ім. Ён будзе жыць у памяці родных і блізкіх, у памяці сваіх шматлікіх баявых сяброў, з кім ён некалі дзяліў свой астрожны хлеб, думы і мары, а ў суровыя ваенныя дні — патроны і песні, горыч страт і радасць перамог. Ён будзе жыць у сэрцы свайго народа, які ніколі яго не забудзе. Хай жа лёгкай будзе табе, дарагі дружа, наша родная зямля, справамі якой ты жыў, якую любіў, росквітам і шчасцем якой ты ганарыўся і радаваўся.

---

Беларускае мастацтва выходзіць на міжнародную арэну, дасягае значных поспехаў, пра яго вядуць гаворку. Нашы мастакі атрымліваюць высокія ўзнагароды на ўсесаюзных і міжнародных конкурсах, іх работы прымае такая выдатная скарбніца мастацтва, як Траццякоўская галерэя. Мастакі заканчваюць інстытуты, удзельнічаюць у выстаўках, працуюць, спрачаюцца і... здараецца, пакідаюць жыццё, так і не ўбачыўшы сур'ёзнага мастацтвазнаўчага даследавання пра сваю творчасць.

Сёння мы стаім перад тым фактам, што нам няма дзе выдаваць сур'ёзную мастацтвазнаўчую прадукцыю. У нас няма спецыяльнага часопіса па мастацтве. Выдавецтвы вельмі неахвотна ўключаюць у планы кнігі пра мастацтва. Паліграфія такіх выданняў дрэнная, тыражы маленькія, попыт не даследаваны. Таму ледзь не кожная кніга пра беларускае мастацтва, не паспеўшы выйсці з-пад друкарскага станка, робіца бібліяграфічнай рэдкасцю.

Акрамя таго, у нас няма кадраў рэдактараў мастацтвазнаўчай літаратуры. У нас няма і дастатковай колькасці мастацтвазнаўцаў. Іх не выпускае наш тэатральна-мастацкі інстытут, а ад тых, якія прапануюць нам вну Масквы і Ленінграда, мы адмаўляемся, маўляў, няма дзе прымяніць іх веды. А між тым, у нас шмат прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці, шмат тэкстыльных камбінатаў, шклозаводаў, у нас вельмі многа розных мастацкіх саветаў — хіба пашкодзіла б, калі б там працавалі кваліфікаваныя мастацтвазнаўцы?

За апошнія некалькі год, працягвае дакладчык, наша мастацтвазнаўства зрабіла якасны рывок наперад. Выйшла кніга М. Крукоўскага «Логіка прыгажосці», кніга М. Кацара «Выяўленчае мастацтва Беларусі дакастрычніцкага перыяду», кніга В. Шматава пра мастака Філіповіча, кніга І. Елатамцавай пра жанры скульптуры, падрыхтавана да друку работа Л. Дробава пра беларускіх дарэвалюцыйных мастакоў.

Але трэба канстатаваць, што робім мы яшчэ вельмі мала. Гэта і віна наша, і бяда. Пад камень, як кажуць, вада не цячэ. Відаць, трэба нам усім больш прыкласці сіл, каб прыўзняць гэты камень і даць магчымасць мастацтвазнаўчаму ручаю ўліцца ў шырокае рэчышча беларускага мастацтва.

З садакладамі на пленуме выступілі У. Бойка («Некаторыя метадалагічныя праблемы беларускага мастацтвазнаўства і крытыкі»), Л. Дробаў («Кірункі работы сектара выяўленчага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР»), Ф.Валадзько («Даследаванне і прапаганда беларускага народнага мастацтва»), А. Белавусаў («Прапаганда беларускага мастацтва ў друку, па радыё і тэлебачанні»).

Узяўшы слова ў спрэчках, В. Шматаў засяродзіў увагу на неабходнасці арганізацыі ў Беларусі сур'ёзнага часопіса па мастацтве. Намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Савета Міністраў БССР А. Барушка расказаў аб магчымасцях выдання мастацтвазнаўчай літаратуры ў Беларусі. У. Стальмашонак—аб неабходнасці ўдзяляць у рабоце саюза больш увагі праблемам і задачам мастацтвазнаўства. В. Сахненка падзяліўся ўражаннямі аб рабоце нашых суседзяў—мастацтвазнаўцаў Літвы. М. Гуціеў спыніўся на некаторых палажэннях тэорыі мастацтва.

На пленуме выступіў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў.

Пленум паказаў, што калектыў беларускіх мастацтвазнаўцаў і крытыкаў здольны актыўна і напружана працаваць.

На пленуме былі заслуханы справаздачы мастацкіх саветаў. Група маладых жывапісцаў, скульптараў, графікаў, мастацтвазнаўцаў прынята ў Саюз мастакоў.

ні, а яе пачатак — добрае, спакойнае, з высокімі самотнымі жураўлямі, якіх з кожным годам усё менш і менш — ці яны гінуць, ці мяняюць старыя дарогі на новыя і там ляцяць па новых дарогах?

Валянцін памятаў, як аднойчы з-за кустоў алешніку, зусім блізка, у мяккім вільготным аўсе ўбачыў двух жураўлёў: яго — крышку вышэйшага, буйнейшага і яе — тоненькую і стройную побач.

Гэта даўні і балючы ўспамін — шырокае, прасторнае роднае поле і яны, адзінокія, насцярожаныя, — ці не адзіныя з тых, што паляцелі да яркага сонца, абмінулі роднае поле дзеля гэтага сонца!

...— А я думаў, ты да мяне і не заедзеш! Дарэмна, думаў, свісткі табе некалі рэзаў. Помніш?

— Помню. І дудкі з гусінага пяра.

— І дудкі! Які ты вымахаў! А я ўсё бліжэй да дому падыходжу. Там і вылечуся.

У дзядзькавых словах Валянцін адчуў боль і шкадаванне. Ці то не хацелася верыць у смерць, ці было шкада, што не зусім удала выйшла жыццё? Некалі дзядзька быў камбайнерам на ўсю МТС, любіў сваю работу. Захварэў на туберкулёз, доўга лячыўся, а вылечыўся — і пажыць з жонкаю не давялося: памерла праз два гады ад родаў. Занямог і дзядзька — нешта сталася з сэрцам. Урачы гаварылі, што хвароба з вялікага хвалявання, што трэба супакоіцца, — і ўсё пойдзе добра. Праз два гады дзядзька пайшоў пасту-

# старых азёрах

хом, а потым брыгадзірам стаў. Ужо ў інстытуце Валянцін чуў, што дзядзька прадаў хату і падаўся ў леснікі. Сын яго тым часам узрос, скончыў школу і ўладкаваўся ў горадзе, на заводзе. А дзядзька даглядаў пчол, выкошваў лясныя палянкі — абодвум братам па возе сена за тое, што некалі не пакінулі ў бядзе. Адведваў ён братоў кожны месяц. Акуратны, чысты, ён прыходзіў у вёску, слухаў, як гаманілі мужчыны, добра і спакойна ўсміхаўся, бы нешта ведаў такое, чаго ўсе не ведаюць яшчэ...

Валянцін на ўсе грудзі ўдыхаў сухі, моцны водар свежага ляснога сена, думаў пра дзядзьку і не каяўся, што прыехаў да яго. І ўсё ж нешта зрушылася ў душы, пахілілася, і ўжо неяк неўзаметку прыходзілі палахлівыя, як здрада, думкі, што тая спрэчка з «галоўным» нікому не патрэбна, што многія даўно забыліся пра той дом, які ён адваёўваў, што старадаўняя прыгажосць не дала б людзям скарэй правесці новую вуліцу, многім зарабіць прэміяльныя і пахвалы — што там нейкая развалюха! А ён сарваўся з перспектыўнай, цікавай работы...

На возера ішлі нацямочку. Спачатку вузенькаю сцяжынкаю сярод мокрага ад расы арэшніку і маладых, густых бярозак і асінак. Дзядзька ступаў спераду, няўклюдны ў сваёй брызентавай адзежы і закасаных паляўнічых бахілах. Маўчалі. Было хораша і добра, як заўсёды жнівеньскімі світаннямі і надвячоркамі.

Хвойнік, малады і шызы ў змроку, пачаўся нечакана, і сцяжынка перайшла ў гулкую, добра ўезджаную падводамі дарогу. Потым дзядзька павярнуў направа. Хвойнік кончыўся, пачаўся гонкі меднаствольны бор, высланы мяккай ігліцай і парослы густой высокай папарацццю. За борам пайшоў нізкарослы рэдкі ядловец на касагоры. Наперадзе, у лагчыне, было бела ад туману.

— Вот табе і Азярышчы! — нібы сам сабе прагаварыў дзядзька і затупаў уніз па касагоры.

У самым лагу дзядзька спыніўся, адкасаў бахілы, заклаў у ствол патроны, — патроны ён насіў у кішэні,.браць на паляванне патранташ не любіў.

— Ідзі паўз гэты бок, там, у лазняку, прытуліся. А я тут, ля слупа чакаць буду. Як далёка над возерам выхваціцца — не бі. Без сабакі ў гэту багну не ўлезеш. А дарэмна нашто...— дзядзька павучаў Валянціна, як і некалі, даўно...

Туман высцілаўся над возерам лёгка і нізка. А як толькі выглянула сонца і пацягнула ветрыкам, туман застаўся толькі над самою вадою нараўне з чаротам.

Валянціну былі відаць з-за кустоў дзядзькава галава, плечы і ствалы стрэльбы, на якіх мутна адсвечвала сонца.

Валянцін аж уздрыгнуў ад нечаканага імклівага посвісту крыл, паспешна ўскінуў стрэльбу і ўдарыў услед качкам раз, другі і толькі тады спахапіўся, што далёка было і страляў дарэмна. Прайшло некалькі чародак, але таксама далёка, над самаю сярэдзінаю возера. Затое потым, адна за адной, дзве імклівыя птушкі ішлі проста на яго. Валянцін цэліўся з асалодаю, «падвёў» і выстраліў. Крыжань гамашна ўпаў амаль пад ногі.

Пачуліся два дзядзькавы стрэлы. Валянцін уявіў, як на гэты раз дзядзька павесіў стрэльбу ўніз ствaламі — больш страляць не будзе — і прыладжвае качак да папругі. Зараз ён будзе ісці да Валянціна, страляць больш не дасць. Нашто, скажа, бесталку глуміць птушку...

Ужо калі ўвайшлі ў лес, слых разануў траскучы, рэзкі гук трактарнага «пускача». Гук далятаў з Азярышч.

— Дзе гэта, дзядзька?

— Канавы капаюць. Цераз год, казалі, араць трактарамі можна будзе.

— А Азярышчы?

— Тут зямля добрая. Цімафееўкі калгасу і людзям хопіць.

Больш дзядзька не сказаў нічога.

Гатавалі сняданак на двары, на трыножках. Валянцін варыў бульбу, пёк сала, а дзядзька тым часам аскуб, асмаліў, выпатрашыў качак і занёс іх у пограб у місцы з халоднаю вадою. Прынёс ён маласольных агуркоў, каўбасы і накрыў усё гэта ручніком на століку пад клёнам, вынес з хаты табурэтку, а за другую была высокая калодка, на якой дзядзька сек ламачча для трыножкі. Прынёс дзядзька і бутэльку «самадушкі». Сабе капнуў толькі на дно, для прыблізу.

Закусвалі моўчкі, не спяшаючыся, як і здаўна павялося ў сялянскіх сем'ях.

— Яшчэ ўліць? На мяне не глядзі. Мне яшчэ дзень па лесе тупаць.

— Не трэба. Не прывык я многа.

— Хм. А я думаў — распіўся. Жонку кінуў, з работы выгналі...

— Тут не саўсім так.

— Што, не глядзела, ці з другім?..

— Не. А работу... сам кінуў. Пішуць, што ў любы час можна прыязджаць.

— Неяк выходзіць у цябе навыварат. А мяне, як знімалі, памучыліся, напацелі!

— А вас знялі? Лепшага брыгадзіра?!

— Помніш Яшку аднарукага?

— Дзіва што! Ён з аднае рукі па зайцу ніколі не мазаў.

— І Амельку помніш?

— Помню яшчэ нават, як Волька з нявесткаю кадоўбчык мёду ўкралі і за мёд хусткі пакуплялі!

— Скнараваты быў, але пчол умеў дагледзець. Пры ім і калгас мёду папрадаваў! Яшка падбіўся да прадсядацеля, спароў Амельку. Вывез пчол на ўзлесак, пчольнік яму паставілі. Самагонку гнаў, мёду на закуску хватала. Дазакусваліся! Пчол звялі. Грахі на самалёты спісалі, што зелле труцяць. Тады Яшка кліны і пад мяне падбіў. Я ў райком да Цвіркі. Наказаў, каб паставілі на работу назад або другую далі. Прыхварэў я быў, а пакуль падлячыўся—Яшкавай і нагі тут няма. З партыі яго выгналі, з работы. Недзе к жончынай радні на Украіну з'ехаў.

— І вы маўчалі? Напісалі б!..

— А што пісаць? Хлопца з цехнікума прыслалі, вучоны. Абвыкнецца з людзьмі — гаспадаром будзе. А мне і тут добра... Ну, ты тут прыбяры, пахадзі дзе, паспі, а то сёння ўспароліся неўпару. А мне лес глядзець...

Прачнуўся Валянцін прыцемкамі. Дзядзькі не было яшчэ з лесу, і Валянцін чамусьці ўзрадаваўся гэтаму, спехам сабраў руказак, замкнуў на вісячы замок хату, паклаў ключ у шчылінку ў вуглу і сцежкаю пакіраваў да шашы, каб паспець на апошні аўтобус, хоць і ведаў, што дзядзька пакрыўдзіцца на яго...

Пасля паездкі да дзядзькі стала яшчэ горш мучыць адзінота і раскаянне, і ўсё часцей і часцей не знаходзілася, чым апраўдаць сябе...

Ён чуў, як на ганку затупацелі нагамі, і падумаў, што да гаспадыні ў госці зноў прыйшоў сын. Але дзверы адчыніліся ў яго пакой, і ўвайшоў бацька — у хромавых ботах, у сінім галіфэ, у сіненькай рубашцы навыпуск. Твар яго быў чыста паголены і чырвоны ад гарачыні. Следам увайшла маці ў святочнай сукенцы з кароткімі рукавамі, з карзінаю ў руцэ, накрытаю вышываным ручніком.

Бацька засмяяўся, пакашляў працягнуў Валянціну руку:

— Здароў, сынок! Прыехалі глянуць, як ты тут...

Маці пацалавала Валянціна ў лоб.

— Але ж і гарачынішча, як улетку стала, — загаварыла яна, выціраючы твар рукою.— У аўтобусе цесната, а я адна месца за траіх займаю. Куды ж гэта ты? Мы ў хату, а ты з хаты.

— У магазін забягу, а то зачыняць на абед.

— Нашто? Бацька тут усяго ўзяў.

— Чаму? Піва мо ест, то хай возьме.

Калі Валянцін вярнуўся, стол быў устаўлены частункам.

— У нас цяпер яблык няма куды дзяваць. Сыплюцца, гніюць. Свінням па кашы носім. А недзе ж людзі жадны гэтаму яблычку!

— А хопіць табе з гэтым садам! Адна песня ў цябе! Карове яшчэ і былінкі на зіму няма! Сад твой есці не просіць!..

— Што ты ведаеш! Назбіраем і карове! Будзе час...

— У цябе век «зробім»! Табе пакуль агню пад хвост не пакладзеш!..

Валянцін падумаў, што бацькі, чаго добрага, пачнуць сварыцца.

— Давайце яшчэ па адной, — прапанаваў Валянцін.

Бацька прыкусіў, закурыў.

— Дык мы вот, сынок, к табе,—пачала маці, кінула вокам на бацьку, але той засяроджана піў піва.

Маці слязліва зашморгала носам.

— Была ж я ў твае, але... Пісьмо прыслала. Сынок жа ў цябе нарадзіўся! Але... Цяжка ёй адной. Не па-людску неяк выходзіць. І бацька жывы, і дзіця сіратою. Цяжка ёй адной...

Маці выцерла вочы.

Бацька ўсё піў піва, не падымаў вачэй, пакашляў і глуха сказаў у шклянку:

— Трэба ж, Валік, дзіця глядзець. І мы дадому ўнучка, як трэба, возьмем. Праўда, Мар'я?

— Але ж, але! І яна сірата, як былінка адна ў полі, без помачы не выгадуе...

Як толькі пад'ехалі да дому, бацька борздзенька выскачыў з машыны і пабег адчыняць вароты.

Валянцін затармазіў ля самага парога. Пакуль ён з вядром і анучаю ў руцэ выціраў машыну, маці з Ірынаю паставілі на стол ежу, хоць толькі што былі за сталом — гасцявалі ў мацерынага брата.

У хаце і бацька і маці ажывіліся, весела затупалі, і Валянціну аж смешна было ўспомніць, як прыціхла сядзелі яны ў машыне. Ён адчуваў, што бацькі рады і яму і Ірыне.

Валянцін нібы памаладзеў за апошнія гады, быў стройны, з чыстым хударлявым тварам. А Іра раздабрэла, раздалася.

— Што ж гэта мы, бацька, з-за стала зноў за стол?

— У гасцях добра, а дома яшчэ лепш. Ты ж там і губ не памачыў.

Пасля першай чаркі ў Валянціна закружылася ў галаве, і ён, як мог, налягаў на кіслыя агуркі.

— Добра б было, каб і Вовачку з сабою ўзялі, — уздыхнула маці.

— Каб не ў лагеры, узялі б, — адказала Ірына.

— Што ж той лагер! Тут бы з хлопцамі выгуляўся на волі, — махнуў рукою бацька.

— А ты там не п'еш хоць? Нейкі лядашчы, як і быў. Ірына, бач, маладзец, — загаварыла да Валянціна маці.

— Не, слава богу. Бывае гады ў рады, — адказала за мужа Ірына. — Хіба ж ён язвеннік!

Валянцін налягаў на каўбасу, агуркі — у апошні час ён палюбіў добра, усмак з'есці — і думаў, каб не забыцца сказаць Ірыне ўзяць агуркоў з сабою.

---

стаўніцы, берагуць і множаць прыдбаны яе дапамогай і клопатам душэўны набытак—і тыя, хто пайшоў на вытворчасць, у навуку, і тыя, хто цяпер ужо сам выхоўвае дзяцей.

І пра тое, як многа значыць праца ў школе для самога настаўніка, як багацее яго душа ў штодзённых дачыненнях з выхаванцамі...

Яўгенія Васільеўна ў кінафільме гаворыць мала, з дзецьмі ў класе мы яе не бачым (і шкада — хацелася б, вельмі хацелася б убачыць). Але нямногіх яе слоў — разважных і праніклівых, сказаных проста і сціпла, — дастаткова, каб адчуць у іх і глыбокую пераконанасць, і ўнутранае гарэнне, каб у голасе, паставе, абліччы выявіўся прыгожы, душэўна прывабны чалавек.

У нарысе Ігара Хадановіча было: «Чалавек з маёй біяграфіі... Напісаў гэтыя словы, і адразу стала крыху ніякавата: быццам пакваліўся на скарб, які належыць многім...» І вось пра Яўгенію Васільеўну гавораць яе былыя вучні. Размова нязмушаная, вольная — пра тое, што іх у гэты момант здымаюць, яны не ведалі. Згадваюць: дапамагла... адкрыла... акрыліла... пакінула незабыўны след у душы... на ўсё жыццё.

Выдатнае месца ў фільме — урок і расказ маладой настаўніцы Таццяны Русаковай. Сельская настаўніца на пачатку педагагічнай дзейнасці (у вёсцы, дарэчы, пачынала настаўнічаць і Яўгенія Васільеўна) — як бліскуча ўмее яна валодаць класам, знаходзіць сцяжынкі да сэрцаў дзяцей! Урок, нейкія пазаўрочныя заняткі... Пануе атмасфера вясёлага ажыўлення, узаемнай захопленасці настаўніцы і вучняў. На нашых вачах адбываецца цуд арганічнага яднання падчас школьных заняткаў працы і радасці, ідзе ўзбагачэнне дзіцячых душ і ўзыходжанне выхавацеля на новую ступень педагагічнага майстэрства. Пройдуць гады, і, мабыць, многія з гэтых вучняў скажуць пра Таццяну Русакову, як сказаў Ігар Хадановіч пра сваю любімую настаўніцу: **чалавек з майго жыцця.**

А потым — буйным планам партрэт Ігара Хадановіча. У твары — узнёсласць і чысціня, мэтаімкнёнасць і парыванне. «Ігар Хадановіч загінуў, стаўшы на шляху хуліганаў». Зноў гаворыць Яўгенія Васільеўна. Пра Ігара Хадановіча: «Гэта вельмі многа — Ігар у маім жыцці. Мне здаецца, што вось калі б нават мне захацелася неяк змяніць сваё жыццё, зрабіць яго лягчэйшым, то я ўжо не маю права на гэта з-за Ігара». Пра сваіх вучняў: «Я заўсёды вельмі востра адчуваю, як многа яны ўнеслі ў маё жыццё. Мне хочацца ім дзякуй сказаць за тое, што яны былі маімі вучнямі...»

Гэта карціна лірычная. Ёсць у ёй паэзія школьных будняў, сонечнага дзяцінства, асветленага хараством шчырых і чыстых пачуццяў. Здаецца, адчувальна паказана, як гэта хораша расці, сталець, разумнець — **жыць** — побач з добрым дарадчыкам, выхавацелем, сапраўдным другам; і адначасова — як адказна быць выхавацелем, быць вартым давеpу, павагі, любові, якімі вучні плоцяць за гэты штодзённы клопат.

Гэта карціна і драматычная. Жыццё — не ідылія, выхаванне — таксама. Аўтары змаглі сказаць і пра гэта, не цураючыся суровай жыццёвай прозы.

Кінафільм зроблены стрымана і сціпла. Нішто як быццам не акцэнтуецца, не вылучаюцца асобныя бакі шматграннай настаўніцкай работы. І ўсё ж выразна акрэсліваецца скразная галоўная думка: быць настаўнікам, выхавацелем—справа пачэсная і адказная, служэнне гэтай справе—адно з вышэйшых чалавечых прызванняў.

Мне думаецца, фільм рабілі людзі, якія любяць дзяцей і школу, добра разумеюць складанасць выхавання, рамантыку цяжкой і радаснай працы настаўніка. Аўтары, сказана ў фільме, удзячны Яўгеніі Васільеўне Перавознай і ўсім, хто ўдзельнічаў у фільме. Хочацца сказаць дзякуй і самім аўтарам—сцэнарысту У. Машкову, рэжысёру У. Дзвінскаму, аператару Г. Лейбману.

**В. БЕЧЫК.**

# ПЯВУЧЫ ТАЛЕНТ

*ДА 60-годдзя ЗАСЛУЖАНАГА ДЗЕЯЧА МАСТАЦТВАЎ БССР КАМПАЗІТАРА Дзмітрыя ЛУКАСА*



Сярод ягоных твораў шмат інструментальнай музыкі: сімфанічнай, камернай, для народных ансамбляў. Драматургічнай напружанасцю вабяць да сябе многія старонкі опернай творчасці гэтага кампазітара. Але найбольш ярка праяўляе свой талент Дзмітрый Лукас там, дзе пануе яго пявучая муза. Сапраўды, вакальная мелодыя сваім багаццем, гранічнай чуласцю да магчымасцей чалавечага голасу прымушае забыць, што яе аўтар часам недастаткова вынаходлівы ў галіне гармоніі і інструментоўкі, поліфаніі і акампанементу. Так, меладычная чуласць Д. Лукаса, яго адчуванне пеўчай прыроды музычнага мастацтва выдатныя. Тут яму не здраджвае мастацкі густ, дапамагае апора на народны мелас. Нагадаю такія хоры кампазітара, як «Узнялося сонца яснае» (словы А. Русака), «У садочку май» (словы М. Танка), «У цёмным лесе гаманіла» (словы народныя). Калі не ведаць, што музыка гэтая напісана кампазітарам, дык не было б нават сумнення, што адбылася сустрэча з яркімі ўзорамі народнай творчасці — настолькі паглыбіўся аўтар у музычную мову свайго народа. І як добра кладзецца ў гэтых хорах аўтарская мелодыя на паэтычныя радкі, як зручна іх вымаўляць: быццам льюцца словы самі...

Уменне **праспяваць** слова, зліць яго ў адно з музыкай — якасць, характэрная для ўсёй вакальнай творчасці Д. Лукаса, для ўсёй — не толькі для харавой. Ён таксама ж па-майстэрску знітаваў паэтычную страфу і ўласную м е л о д ы ю, напрыклад, у песні для дзяцей «Наша мама — дэпутат» (словы Э. Агняцвет), у вакальным цыкле «Мелодыі» (словы Лесі Украінкі), у радыёоперы «Рак-вусач» (лібрэта М. Троіцкай па Я. Коласе), у рамансах «Як у лесе расцвіталі» (словы Я. Купалы), «Хай кажуць мне» (словы М. Машары), «Сінічка» (словы М. Клокавай), «Сюзанэ» (словы Э. Агняцвет). Менавіта такая чуласць да паэтычнага тэксту і падтэксту дапамагла Д. Лукасу ў оперы стварыць цікавыя і пераканаўчыя музычныя характарыстыкі Карася-падхаліма, Шчупака-старасты, Качачкі, Чаротаў і да таго падобных, незвычайных для опернага мастацтва персанажаў.

Гэтая ж чуласць да слова садзейнічала таму, што ў вакальным цыкле «Мелодыі» кампазітар ярка, вельмі ўражліва і беражліва, шматбакова раскрыў унутраны свет перажыванняў лірычнай гераіні твора, раскрыў яе смутак і непакой, душэўны боль і трагізм безвыходнасці, радасць узнаўлення жыцця і святло вясновых настрояў.

Буйнейшым творам Д. Лукаса з'яўляецца яго опера «Кастусь Каліноўскі» (лібрэта М. Клімковіча), якая ў свой час выклікала шмат спрэчак, мела дзве рэдакцыі і, на жаль, беспадстаўна знікла з рэпертуару нашага тэатра оперы і балета. Ніхто не сумняваецца ў тым, што адна з першых беларускіх опер на гістарычную тэму не пазбаўлена недахопаў. Тут і недастатковае развіццё лейттэм, некаторая статычнасць масавых сцэн, недахоп маляўнічасці ў аркестроўцы і г. д. Але нельга не адзначыць яркасць, уражлівасць, з якой увасоблены цэнтральны герой твора — вялікі сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі. Яго лірыка-эпічная арыя з першай дзеі («Вось яна ляжыць перада мной, мая вялікая Айчына») і драматычны маналог у турме пры напісанні пісьма-звароту да беларускага народа («З шыбеніцы пішу я»), безумоўна, належаць да лепшых старонак беларускай опернай музыкі. Кампазітарам створаны цікавыя вобразы здрадніцы Марыі Грыгатовіч, жонкі Кастуся Каліноўскага Вольгі, хоры каліноўцаў (асабліва — «Хопіць гнуцца ад болю і гора»); вынаходліва напісана мазурка, што гучыць на бале ў Мураўёва.

Можна прывесці і іншыя змястоўныя і цікавыя па ўвасабленні фрагменты з «Кастуся Каліноўскага», якія гавораць, што опера мае права на сцэнічнае жыццё і пры адпаведнай працы тэатра з аўтарам стала б здабыткам нацыянальнага рэпертуару...

Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Дзмітрый Аляксандравіч Лукас — аўтар яркага музычнага афармлення драматычных спектакляў «Канстанцін Заслонаў» і «Пінская шляхта», кінафільмаў «Несцерка», «Дзеці партызана» і іншых. Сёння, калі мы адзначаем 60-годдзе з дня яго нараджэння, хочацца пажадаць кампазітару новых яркіх твораў.

**І. ІНІЧ.**



# ГЭТЫ ЦУДОЎНЫ ДЗІЦЯЧЫ СВЕТ...



**Мастацкая творчасць дзяцей заўсёды ўражвае сваёй нечаканасцю, своеасаблівым бачаннем свету. Гэта яшчэ раз пацвердзіла выстаўка выяўленчага і прыкладнога мастацтва дзяцей, якая адкрылася ў Мінскім гарадскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Тут экспануецца больш чым чатырыста малюнкаў, акварэляў, вырабаў з керамікі, саломкі, дрэва.**

**Цікавыя творы прадставілі на выстаўку вучні сталічных сярэдніх школ №№ 2, 19, 61, 62, 74 і іншых. Сярод іх можна ўбачыць работы, прысвечаныя партыі, рэвалюцыі, пейзажныя замалёўкі, аўтапартрэты юных мастакоў.**

**На выстаўцы заўсёды шмат наведвальнікаў.**

**Вось уважліва разглядаюць экспанаты вучні Рэчыцкай васьмігадовай школы Пухавіцкага раёна, якія прыехалі ў Мінск на экскурсію. Падоўгу затрымліваюцца яны ля малюнкаў Олі Маславай («Будзёнавец»), Ігара Турава («Пайшла нафта»), Олі Бурнашовай («Дождж»), якія вы бачыце на здымках.**

**В. КАПЦІЛОВІЧ.**

Фота П. НІКІЦІНА.





## Паэтычная паверка

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



### ПРЫВІТАННЕ

Як лён, як выспелае зерне,
Любілі слова мужыкі.
Звініць, бы хваля, «Заазер'е»,
Гучыць ласкава «Верабкі».

Чарніцам—назвай ганарыцца.
Начамі—шапацець шашы.
І нам з табой не надзівіцца
Пяшчоце простае душы.

Забыць не хочам і не зможам
Гасціннай Віцебшчыны дол.
Жыве далёкае Замошша,
Як сотні вёсачак і сёл.

Іх назвы песцілі сяляне
З сівых пакутлівых часоў.
Іх назвы—госцю прывітанне,
Як хлеб і соль, як хлеб і соль...

●

«Дожджык, дожджык,
секані!..»
Танцавалі прамяні.
Танцавалі босы ногі,
І чубы і белы пыл.
Праляталі над дарогай
Стрэлы ластаўчыных крыл.
А пасля—маланак стрэлы...
«Дожджык, дожджык,
секані!..»
Як чарніца, хмара спела
Над зялёнай цішай ніў.
І кірпатыя паэты
Гаманлівай чарадой
У прапыленага лета
Раптам выпрасілі дождж.
Танцавалі кроплі ў жменях,
Заглушалі струмяні
Жартаўлівае прашэнне:
«Дожджык, дожджык,
секані!..»

Мікола ЧАРНЯЎСКІ



### КЛОПАТ

Я на неба паглядваю часта.
І гляджу ўпершыню нібыта
На чародкі хмарак купчастых,
Што плывуць
У бяздонні блакітным.
Я на сонца гляджу,
На зоры,
Я на ранак гляджу празрысты.
Я на ціхі гляджу адвячорак
І на тысячы промняў чыстых,
Што зямлю спавіваюць
пяшчотна,
Што раслінку цягнуць угору...
Любаваўся Сажом
паўнаводным
І дрымучым цяністым борам.
Я чакаю ў сухмень
навальніцы—
Я таксама гляджу на неба:
Будзе дождж,
Каб зямлі напіцца,
Каб шырэй
Нашым рэкам разліцца,
І каб жыту
Буйней каласіцца,
І расе
На лістах серабрыцца,—
Каб з палёгкаю дыхала глеба...

●

Упала воблака туману
На парыжэлую траву.
У восеньскі настылы ранак
Не йду, здаецца, а плыву.

Бы ў хвалях возера—далоні,
І прысмак пырскаў — на губах.
Куды ж ад берагу адгоніць?..
Нібы вясла —
Рукі узмах.

...І выплываеш...
Дзень асенні
Ад першых промняў прыкурыў,
У хмарную густую пену
Нырае сумнае: кур-лы!..

# У БАЯВЫМ СТРАІ

**ГАЗЕЦЕ ЧБВА «ВО СЛАВУ РОДИНЫ» — 50 гадоў**

«ВО СЛАВУ РОДИНЫ» — адна са старэйшых газет Узброеных Сіл СССР. Яе першы нумар выйшаў у свет 22 чэрвеня 1921 года. Тады яна з'яўлялася органам Рэўваенсавета Заходняга фронту і выходзіла пад назвай «Красноармейская правда». У далейшым увесь яе паўвяковы шлях быў цесна звязаны з жыццём і баявой дзейнасцю войск Заходняга і 3-га Беларускага франтоў, Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.

З першых дзён свайго існавання газета жыла інтарэсамі народа і яго арміі. Яна шырока асвятляла баявую дзейнасць, жыццё і вучобу войск, работу партыйных і камсамольскіх арганізацый, дапамагаючы камандзірам і палітработнікам у палітычным, воінскім і культурным выхаванні асабовага складу.

У суровыя дні Вялікай Айчыннай вайны «Красноармейская правда» клікала савецкіх воінаў бязлітасна граміць акупантаў, якія ўварваліся на нашу свяшчэнную зямлю.

На старонках газеты шырока асвятляўся, у прыватнасці, баявы вопыт воінаў 100-й стралковай дывізіі, якія на подступах да Мінска бутэлькамі з гаручай сумессю і гранатамі знішчылі дзесяткі варожых танкаў.

У час бітвы пад Масквой з расказам аб сваім вопыце ў газеце выступалі знішчальнікі варожых танкаў і самалётаў, воіны ўсіх баявых спецыяльнасцей. «Красноармейская правда» пісала аб высокім ратным подзвігу герояў-панфілаўцаў, аб бяспрыкладнай адвазе і мужнасці коннікаў Даватара, танкістаў Катукова. Разам з войскамі 3-га Беларускага фронту газета ўдзельнічала ў вызваленні ад акупантаў нашай рэспублікі.

«Красноармейская правда» з гонарам вытрымала баявы экзамен. Увесь асабовы склад рэдакцыі, друкарні і выдавецтва быў узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны газета, якая атрымала новую назву — «Во славу Родины» — заклікае воінаў настойліва ўдасканальваць палявую вывучку, вучыцца ва ўмовах, максімальна набліжаных да баявых. Многа месца на яе старонках адводзіцца абагульненню франтавога вопыту, папулярызацыі гераічных подзвігаў.

Разам з войскамі акругі калектыў «Во славу Родины» трымаў экзамен на баявую сталасць на буйных вучэннях «Днепр» увосень 1967 года, а пазней на вучэннях тылу «Нёман» і асабліва на вайсковых манеўрах «Дзвіна».

Цяпер газета разгарнула вялікую работу па прапагандзе і растлумачэнні гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

Адной са слаўных традыцый, якая падтрымліваецца з першых гадоў існавання газеты, з'яўляецца прапаганда лепшых твораў савецкай літаратуры, цесная сувязь з беларускімі пісьменнікамі, творчая дапамога пачынаючым армейскім паэтам і празаікам.

Рэдакцыя шырока прадастаўляе свае старонкі для публікацыі вершаў, апавяданняў, аповесцей пісьменнікаў Савецкай Беларусі. Яшчэ ў 1922 годзе газета па сутнасці дала першую пуцёўку ў літаратуру Кандрату Крапіве.

У пачатку 30-х гадоў, калі ў Германіі ўсё больш нахабна стаў узнімаць галаву фашызм, у радзе нашых ваенных акруг былі створаны літаратурныя аб'яднанні, а ў Маскве — Усесаюзнае літаратурнае аб'яднанне Чырвонай Арміі і Флоту — ЛАЧАФ (адзін з яго арганізатараў — Я. Купала). Такое літаб'яднанне (БелЛАЧАФ) было створана і ў Беларусі, у БВА. Яно ставіла сваёй мэтай — мастацкім словам дапамагчы справе абароны СССР.

Члены літаб'яднання БВА звярнуліся з пісьмом да Максіма Горкага — ганаровага старшыні ЛАЧАФа. Адказ вялікага пралетарскага пісьменніка быў надрукаваны 19 студзеня 1931 года ў «Красноармейской правде». У канцы пісьма Аляксей Максімавіч выказаў свае пажаданні:

«Маладым літаратарам — чырвоным байцам жадаю не стамляцца вучыцца.

Заўсёды вучыцца, усё ведаць! Чым больш пазнаеш, тым мацнейшым станеш. І трэба вельмі цвёрда памятаць: у будучых бітвах чырвоны баец павінен дзейнічаць не толькі куляй, штыком, шабляй, а і сваім рэвалюцыйным словам рабочага, які здолеў стаць гаспадаром усёй краіны і з дня ў дзень упрыгожвае яе сваёй працай свабоднага чалавека».

Пажаданне Максіма Горкага акрыліла пісьменнікаў. У 1931 годзе Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выпускае першы альманах БелЛАЧАФа, а ў 1932-м годзе пачынае выходзіць штомесячны літаратурна-мастацкі часопіс «Наготове». У яго рэдкалегію ўваходзілі А. Александровіч, К. Крапіва, І. Шапавалаў. У часопісе друкаваліся вершы Я. Купалы, М. Чарота, П. Броўкі, апавяданні Я. Скрыгана, драматычныя творы К. Чорнага, І. Гурскага і іншых аўтараў.

Многія пісьменнікі актыўна супрацоўнічалі ў «Красноармейской правде». У гэтыя гады газета публікуе паведамленні аб стварэнні і рабоце літаратурных гурткоў у часцях акругі, друкуе таксама вершы і апавяданні пачынаючых армейскіх паэтаў і празаікаў.

У першы ж дзень Вялікай Айчыннай вайны ў рэдакцыю «Красноармейскай правды» прыбылі на службу К. Крапіва, І. Гурскі, М. Лынькоў, Я. Герцовіч. На старонках газеты ў гады вайны ўбачылі свет многія літаратурныя матэрыялы, напоўненыя суровым дыханнем баёў. Іх аўтарамі былі Ул. Стаўскі, Я. Вараб'ёў, А. Суркоў, К. Сіманаў, В. Кажэўнікаў, М. Матусоўскі, М. Слабадской, І. Арамілеў, Л. Прокша і іншыя паэты і празаікі. Вядомая кніга пра байца «Васілій Цёркін» А. Твардоўскага пачала сваё пераможнае шэсце ў савецкай літаратуры са старонак «Красноармейской правды».

І ў апошнія гады газета перыядычна знаёміць чытачоў з новымі літаратурнымі творамі савецкіх пісьменнікаў, перш за ўсё беларускіх. «Во славу Родины» друкавала вершы, апавяданні, раздзелы з аповесцей П. Броўкі, М. Танка, І. Шамякіна, П. Панчанкі, М. Ткачова, А. Кулакоўскага, І. Мележа, І. Пташнікава, П. Прыходзькі, А. Ставера, Б. Спрынчана і многіх іншых. М. Калачынскі, П. Дудо, П. Харкоў, Г. Папоў, М. Яромушкін самі працавалі ў рэдакцыі «Во славу Родины».

Пісьменнікі Беларусі аказваюць вялікую дапамогу літаратурным аб'яднанням воінскіх гарнізонаў, асабліва літаб'яднанню пры рэдакцыі «Во славу Родины». Газета перыядычна публікуе нататкі, справаздачы аб чытацкіх канферэнцыях, сустрэчах з пісьменнікамі, рэцэнзіі на кнігі выдавецтва «Беларусь».

Увайшла ў практыку публікацыя літаратурных старонак «Пісьменнікі Беларусі — воінам ЧБВА», «У нас у гасцях часопіс «Неман», «У нас у гасцях часопіс «Полымя». У пярэдадзень 53-й гадавіны Савецкай Арміі газета надрукавала разварот «Дзеячы літаратуры і мастацтва Беларусі — воінам ЧБВА». Толькі за апошнія гады ў газеце былі надрукаваны нарысы пра К. Крапіву, А. Куляшова, М. Танка, І. Шамякіна, М. Аляксеева.

Газета «Во славу Родины» пад пастаянным кіраўніцтвам Ваеннага савета і Палітычнага ўпраўлення ЧБВА ўносіць свой уклад у справу выхавання воінаў у духу савецкага патрыятызму, пралетарскага інтэрнацыяналізму, у духу высокай пільнасці і баявой гатоўнасці.

**Падпалкоўнік І. АЛЯКСАНАЎ,**
**начальнік аддзела культуры і быту рэдакцыі газеты «Во славу Родины».**

# КОНКУРС
## НА АДНААКТОВЫЯ П'ЕСЫ

**Міністэрства культуры БССР і Саюз пісьменнікаў БССР аб'явілі Рэспубліканскі конкурс на аднаактовыя п'есы, прысвечаныя актуальным тэмам сучаснасці — непарушны саюз рабочага класа і калгаснага сялянства, высокае маральнае аблічча савецкіх працаўнікоў, дружба народаў і сацыялістычны інтэрнацыяналізм, барацьба супраць рэакцыйнай буржуазнай ідэалогіі і палітыкі імперыялізму. Зацверджана журы на чале з намеснікам міністра культуры БССР Ю. М. Міхневічам.**

На конкурс прадстаўляюцца аднаактовыя п'есы, якія нідзе не публікаваліся і не выконваліся.

Тэкст п'есы, надрукаваны на машынцы, прадстаўляецца ў трох экземплярах у журы конкурсу да 1 кастрычніка 1971 г. на беларускай або рускай мовах.

Рукапісы падаюцца пад дэвізам з дадаткам запячатанага канверта, у якім змешчана прозвішча, імя і імя па бацьку аўтара з указаннем прафесіі, месца работы, адрасу.

**Усе матэрыялы накіроўваюцца па адрасе: г. Мінск, Дом урада, Міністэрства культуры БССР, з паметкай «Конкурс на аднаактовыя п'есы».**

**За лепшыя аднаактовыя п'есы ўстанаўліваюцца наступныя прэміі:**

*Першая прэмія—адна—700 рублёў.*
*Другая прэмія—адна—500 рублёў.*
*Трэцяя прэмія—тры—па 300 рублёў.*
*Заахвочвальныя прэміі—тры — па 100 рублёў.*

Прэміраваныя п'есы набываюцца Міністэрствам культуры БССР.

## БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКІ ІНСТЫТУТ

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ НА 1971—1972 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД**

**на завочнае аддзяленне па спецыяльнасці ТЭАТРАЗНАЎСТВА**

*Прыёмныя экзамены — па спецыяльнасці (рэцэнзія на спектакль або п'есу, субяседаванне па гісторыі тэатра), гісторыі СССР, беларускай мове і літаратуры (сачыненне і вусна) або рускай мове і літаратуры (сачыненне і вусна).*

Прыём дакументаў да 10 ліпеня 1971 г. Экзамены з 11 па 25 ліпеня 1971 г.

**У НАРОДНЫХ ТЭАТРАХ**

# І ПАКАЦІЎСЯ «КАЛАБОК»...

ЗАЙЗДРОСНЫ лёс драматургіі Андрэя Макаёнка: нядаўна з творчай майстэрні выкаціўся «Калабок» — п'еса, якая замацавалася ў літаратуры пад назваю «Трыбунал», а сёння ідуць спектаклі па гэтай п'есе на прафесійнай сцэне і ў аматарскіх калектывах. Народны тэатр Маладзечанскага вытворчага мэблевага аб'яднання таксама паказаў прэм'еру па ёй.

Змест трагікамедыі «Трыбунал» зусім просты. У дні фашысцкай акупацыі вясковы пастух і балагур Цярэшка Калабок на сялянскім сходзе па ўласнай ініцыятыве даў згоду служыць немцам. Яго прызначылі старастам. Сапраўдны бунт узгарэўся ў сям'і Цярэшкі. Яго сын, дочкі і нявестка зненавідзелі здрадніка. Горай, што Цярэшка заўсёды быў пад абцасам у сваёй жонкі Паліны. Цяпер жа яна наладжвае яму сапраўдную экзекуцыю. Даходзіць да таго, што Цярэшку звязваюць вяроўкай, кладуць у мяшок і збіраюцца ўтапіць у сажалцы. У сям'і трагедыя. Сын Валодзя не вытрымлівае абразы, ідзе ў нямецкую камендатуру і падрывае яе разам з сабою. Нарэшце усё высвятляецца: Цярэшка пайшоў служыць немцам па заданні партызан...

Здавалася б, сітуацыі ясныя, вобразы зразумелыя, сцэнічныя палажэнні выйгрышныя; толькі вывучы тэкст, раскінь мізансцэны ды ігрconsiderate весялей — поспех забяспечаны. Але гэта зусім не так. Нескладанасць п'есы — толькі знешняя, падманлівая. Таму і хацелася б, выкарыстоўваючы здабыткі і пралікі народнага тэатра маладзечанцаў, пагаварыць аб п'есе з аматарамі, якія ўключылі ў рэпертуар гэты твор.

Думаецца, самае галоўнае, аб чым павінны памятаць самадзейныя артысты, гэта тое, што ўсе сцэнічныя падзеі і неверагоднасці «Трыбунала» трэба ўспрымаць з глыбокай верай у іх нявыдуманасць. Аб гэтым крыху забыліся маладзечанцы (рэжысёр М. Васілеўскі), не прынялі падзеі п'есы блізка да сэрца, твор не ўзрушыў іх. І гэта адразу заўважае глядач. Адсюль штучнасць усяго таго, што адбываецца на сцэне. Траціцца вастрыня сітуацыі, знікае камедыйнасць. Артысты іграюць фарс, а не трагікамедыю — жанр, які вымагае асаблівага майстэрства і ад рэжысуры, і ад выканаўцаў.

Возьмем адну з цэнтральных роляў спектакля — Паліну, жонку Калабка (Г. Агеева). У выканаўцы ёсць усе дадзеныя, каб сыграць такую жанчыну. Аднак самадзейная артыстка чамусьці непакоіцца, што глядач ёй не паверыць, і залішне «націскае» на тэкст, мітусіцца. А куды лепш было б даверыцца аўтару, каб Паліна паверыла ў страшную для яе вестку—муж стаў здраднікам. Так нарадзілася б тая ўладарнасць, тэмперамент, інтанацыйная разнастайнасць, якія Г. Агеева пакуль што спрабуе сыграць.

Кожны член сям'і Калабка — савецкі патрыёт, і важна прасачыць, як рэагуюць на ўчынак бацькі дочкі Галя і Зіна, сын Валодзя і нявестка Надзя. Гнеў іх можа быць і на аднолькава высокім напале, але праяўленне — рознае. Характар Галі (Л. Мячкоўская) хочацца бачыць больш баявітым і рэзкім (і ў дзяцінстве ёй ад бацькі больш за ўсіх папругі даставалася), але выканаўца быццам не ведае сваёй гераіні і паводзіць сябе на сцэне так, нібыта тое пачуццё яе не датычыцца... Больш удала, здаецца, трапляе ў тон ролі М. Міцкевіч (Зіна), хаця ёй таксама нельга іграць толькі адну фарбу — жаль да бацькі. Пакуль не знайшоў сябе ў спектаклі Ю. Грынь. Роля Валодзі — адна з адказнейшых і, будзем шчырымі, з найцяжэйшых. Тут трэба апраўдаць цудоўны душэўны парыў юнака, зрабіць яго лагічным, жыццёва дакладным. На жаль, самадзейныя артысты іграюць не сваё адносіны да факта, а сцэнічную сітуацыю, камедыйныя і трагедыйныя становішчы.

Ролю Калабка калектыў даручыў артысту народнага тэатра В. Агееву. Выбар, як кажуць, беспамылковы. Выканаўца — чалавек здольны, тэмпераментны. Іграе шчыра, стварае цікавы вобраз хітраватага, праставатага чалавека з народа. Артысту даводзіцца трымацца агульнага малюнка спектакля, але за рамкі яго яму так і хочацца вырвацца.

Рэжысёру М. Васілеўскаму трэба было больш удумліва і сур'ёзна ставіць задачы перад акцёрамі, будаваць мізансцэны, якія пакуль што даволі-такі статычныя і не нясуць ніякай сэнсавай нагрузкі. Напрыклад, у сцэне прыходу ў дом Цярэшкі нямецкага каменданта (А. Семашкевіч) і начальніка паліцыі Сырадоева (Ю. Высоцкі) ўсе выстрайваюцца на адной лініі і гавораць. Падзеі не абыгрываюцца. Сям'я стаіць па стойцы «смірна». Калабок пасаджаны рэжысёрам спіною да гледача. Траціць сэнс вельмі важная для ўсёй п'есы сцэна.

Вельмі б хацелася, каб з моваю п'есы выканаўцы абыходзіліся натуральна, як са сваёю роднаю моваю, тады б у натуральнай плыні гаворкі кожнае слова заняло сваё месца.

Спектакль «Трыбунал» у народным тэатры Маладзечна мае шэраг недахопаў, але работа над спектаклем працягваецца...

Памылкі першых пастановак маладзечанцаў карысна ўлічыць усім самадзейным драматычным калектывам, якія бяруцца сёння за гэты цікавы твор.

**С. ПЯТРОВІЧ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

Г. ЧАРНАЯРАВА,
харэограф

# У ЧЫМ АСНОВА СЦЭНІЧНАГА ТАНЦА?



Выступае брэсцкі ансамбль песні і танца «Прыбужжа».
Фота В. ГЕРМАНА. (БЕЛТА).

ПРАЦА харэографа у самадзейных калектывах —нялёгкая. Калі харавыя, інструментальныя, вакальныя, драматычныя калектывы карыстаюцца творамі драматургаў, кампазітараў, паэтаў і могуць дубліраваць адзін аднаго ў рэпертуары, харэограф у асноўным сам стварае танцы, шукае для іх сюжэты, падбірае музычны матэрыял, танцавальныя малюнкі, камбінацыі.

На жаль, новых танцавальных мелодый, не рытмаў, падкрэсліваю, а мелодый, якія б лёгка і надоўга запаміналіся, кампазітары амаль не ствараюць. Гэта ўскладняе работу пастаноўшчыкаў танцаў. Мне, як члену абласнога журы па харэаграфіі, давялося прагледзець амаль усе танцавальныя калектывы Мінска і Мінскай вобласці. Шмат пабачыла летась і выступленняў энергетыкаў Мінскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Брэсцкай абласцей. У лютым гэтага года на абласным аглядзе самадзейнасці медыцынскіх работнікаў таксама знаёмілася з новымі для мяне харэаграфічнымі калектывамі. Усё гэта дало магчымасць многае не толькі ўбачыць, але і падумаць — аб сённяшнім стане нашай самадзейнай харэаграфіі, яе развіцці, перспектывах.

Што заўважаеш найперш? Мала, вельмі мала беларускіх танцаў у рэпертуары, а тыя, што ёсць, выконваюцца пасрэдна, не даносяць да гледача багацця нацыянальнай харэаграфіі. «Лявоніха», полька, крыжачок, які-небудзь карагод — кожны танец мае свае харэаграфічныя элементы, свой малюнак, своеасаблівы каларыт. Аднак у выкананні многіх нашых калектываў усё змешваецца, нібы гэта—адзін танец. У выніку атрымліваецца безгустоўная, сумная пастаноўка. У калектывах не ведаюць беларускай харэаграфіі і тады ўкліньваюць украінскія, рускія, польскія прыпаданні, дробі, па дэ баскі, па дэ бурэ, нават танцавальныя рухі данскога казацтва, і ўсё—у сумбурным парадку, толькі б перабіраць нагамі. Так атрымалася з «беларускай полькай» у выкананні танцавальнага калектыву Палаца культуры Белазёрскай ДРЭС. У танцы выхад не беларускі, частка рухаў, у тым ліку вяровачка і прыпаданне, флоцкія, ёсць рускае прытупванне і руская канцоўка. Сама будова танца нічога агульнага не мае з полькаю. Такое ж прыкрае ўражанне ад карагода «Купалінка» ў выкананні калектыву рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы. Вельмі слабая пастаноўка, выканаўцы не выразныя, статычныя. Элементы ўжыты рускія, украінскія, беларускія.

Можна зразумець харэографаў, якія слаба ведаюць харэаграфічную мову іншых народаў. Але як не ведаць харэаграфію свайго народа? Да яе адносіцца трэба ашчадна, як да свайго роднага, як гэта робяць хоць бы ў рэспубліках Прыбалтыкі, на Украіне—нашы суседзі. Ствараючы новыя сучасныя рытмы, яны ашчадна ахоўваюць сваю этнаграфію, багаты нацыянальны каларыт—і толькі выйграюць ад гэтага.

**На канферэнцыі, якая праходзіла ў лістападзе 1970 года, старшы метадыст па харэаграфіі рэспубліканскага Дома народнай творчасці С. Грабеншчыкаў, на здзіўленне ўсіх, выказаўся за выключэнне з рэпертуару этнаграфічнага танца. Яго не падтрымаў Генадзь Іванавіч Цітовіч, які вельмі ўсхваляванa, горача звярнуўся да прысутных—не забываць этнаграфію ні ў музыцы, ні ў песні, ні ў танцы. Этнаграфія—гэта гісторыя народа, неацэнная крыніца . ўзбагачэння сённяшняга мастацтва. На жаль, члены журы агляду-конкурсу 1970 года па харэаграфіі на гэту канферэнцыю не былі запрошаны, як і спецыялісты Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, а таму асабліва цікавай размовы для кіраўнікоў самадзейных калектываў не атрымалася. І гэта ў той час, як на абласных курсах на аддзяленнях па харэаграфіі выкладаюць хто што можа, даводзячы беларускі танец да вельмі нізкага ўзроўню. Відаць, адпаведныя арганізацыі ў Мінску мала цікавяцца, чаму там навучаюць, як выкладаюць, што ведаюць кіраўнікі харэаграфічных калектываў.**

Этнаграфічны танец трэба захоўваць па характары і касцюме такім, якім ён быў ва ўсе ранейшыя гады. У прыклад хочацца паставіць калектыў клуба торфапрадпрыемства «40 год БССР». У пастаноўцы «Дзявочы карагод» выканаўцы вялікай харавой і танцавальнай груп былі апрануты ў вельмі добрыя касцюмы чыста нацыянальнага каларыту, адпаведнай даўжыні, пасавалі да касцюмаў галаўныя ўборы.

**Самы просты народны танец — карагод, ён не патрабуе вялікіх харэаграфічных ведаў, тэхнікі, але самы паэтычны. У залежнасці ад зместу песні карагод можа быць сумным, гуллівым, вясёлым, павольным, хуткім, але толькі не пустым хаджэннем па сцэне, што, на жаль, назіраецца ў выкананні некаторых калектываў. Відавочна, што на семінарах, якія праводзяць дамы народнай творчасці і дамы мастацкай самадзейнасці, не надаецца належнай увагі канкрэтнаму разбору—што такое беларускі карагод, якая яго музычная аснова, якія харэаграфічныя элементы яму ўласцівы, як даўно і ў якіх народаў бытуе гэты танец (дарэчы, карагод ёсць амаль ва ўсіх народаў свету). А як карысна было б асобны семінар прысвяціць польцы. Чым, скажам, беларуская полька адрозніваецца ад рускай, літоўскай, чэшскай, польскай, нямецкай? Чым наогул полька адрозніваецца ад іншых танцаў?**

Наспела неабходнасць дапамагчы нашым самадзейным харэографам разабрацца ў сучасным танцы—патрэбна яму старая, фальклорная аснова альбо зусім новая харэаграфія? Некаторыя пастаноўшчыкі памыляюцца, калі лічаць, што своеасаблівае папуры з розных танцаў—гэта і ёсць нешта новае. Так, ствараючы танец «Кросны», адзін з талачынскіх калектываў уключыў элементы «Лявоніхі», полькі-трасухі, «Лянка» і нават рускага па дэ баска. Новага не атрымалася, выйшла нешта далёкае ад мастацтва. Сябе ж калектыў загнаў у тупік: ставіць пасля гэтага «Лявоніху», альбо польку ўжо не мае сэнсу. Тое ж самае здарылася з пастаноўкай «Дзявочага карагода» (Дом культуры торфабрыкетнага завода).

**На семінарах абавязкова трэба дапамагчы кіраўнікам харэаграфічных калектываў у пастаноўцы рук, растлумачыць іх значэнне ў танцах беларускіх, украінскіх, рускіх, польскіх, венгерскіх. Ды ці толькі пра рукі трэба гаварыць! Розніцы паміж асноўным крокам «Лявоніхі» і ўкраінскага бегунца—таксама многія не ведаюць. Карыснай была б і размова аб класічным трэнажы, які служыць цудоўнай асновай для танцавальнай культуры любога напрамку. Мусіць, для нашых самадзейных калектываў патрэбна вылучыць толькі пэўную групу трэнажных рухаў, якія з'яўляюцца асноўнымі ў танцавальнай грамаце — пастаноўка корпуса, рук, галавы, рытмічныя практыкаванні і г. д. Але механічнае развучванне трэнажных практыкаванняў карысці не прынясе колькі б іх ні паўтаралі. Педагог павінен дакладна ведаць і растлумачваць тым, хто займаецца, якога выніку ён чакае ад практыкавання.**

У апошні час на сцэне ў канцэртным выкананні ўсё часцей паказваюцца бальныя танцы. Гэта і добра, і кепска. Кепска тады, калі пастаноўшчыкі не задумваюцца, навошта яны іх паказваюць, гэтыя танцы. А задумацца трэба. Гэта бытавы танец, і калі вырашылі яго паказаць на сцэне, дык будзьце ласкавы паставіць так, каб любата было паглядзець, каб не размахвалі рукамі і нагамі нейкія манекены ў мешкаватым безгустоўным адзенні. Бальны танец—гэта сама культура руху чалавека. І хада, і пастава корпуса, галавы, рук—усё павінна выглядаць прыгожа, без напружання, усё павінна вучыць гледачоў нават як насіць сукенку, які фасон для якой фігуры больш пасуе і г. д. І дзіву даешся, калі пастаноўшчык бальнага танца не разумее гэтага, а хутчэй стараецца вывесці танцораў на людскія вочы. Прыкра было глядзець на калектыў Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы. Па сцэне нязграбна рухалася восем дзяўчат у ружовых і блакітных сукенках, па таліі адразных, у зборку, з няўдалым выразам замест каўняра, ад чаго ўсе выглядалі вельмі поўнымі і няўклюднымі. Вольная пара была апранута ў касцюмы, якія толькі нагадвалі беларускія.

У апошні час захапіліся бліскаўкамі. Яны не заўсёды да месца, часта псуюць нацыянальны каларыт адзення, «забіваюць» арнамент, зрокава не ўспрымаюцца. Вінаваты ў гэтай безгустоўнасці перш за ўсё мастакі.

**І яшчэ некалькі ўражанняў ад іншых танцаў, якія запомніліся далёка не з лепшага боку.**

**Рытмічны танец-папуры ў выкананні трох дзяўчат з Пухавіч — факстрот, «Летка-Енька», чарльстон, халі-галі. Усё слаба. «Кацюша»—накшталт рускага бальнага танца. Выкананне прымітыўнае, танцавальныя кавалкі не маюць сваіх характэрных асаблівасцей. А адзенне! Аранжавыя сукенкі без рукавоў, укарочаныя, высокія боцікі з аранжавага і залацістага замяняльніка скуры... Трэба не мець і кроплі эстэтычнага густу, каб прапагандаваць бальныя танцы ў ботах, прыгодных для вуліцы, ды і то хіба ранняй вясной ці восенню!**

**Або—сольная пара мінскай шостай клінічнай бальніцы. «Рытмы» выкананы імі ўвогуле нядрэнна, але няма асноўнага для бальнага танца: выхаду на танец. Даволі развязна выйшла на сярэдзіну сцэны дзяўчына, крутнулася і падрыхтавалася не то да танца, не то да спартыўнага спаборніцтва. Няма і канцоўкі: нечакана, яшчэ не закончыўшы танец, танцоры разышліся, нібы незнаёмыя людзі.**

Вялікі прабел у музычным суправаджэнні. Большасць самадзейных музыкантаў дрэнна знаёма з акампанементам у харэаграфіі, іграюць, як каму ўздумаецца. Вось чаму вельмі патрэбны семінары для акампаніятараў харэаграфічных калектываў. І праводзіць такія семінары павінны музычныя работнікі, добра знаёмыя з гэтым жанрам мастацтва. Вядома, прысутнасць на семінары вопытнага і адукаванага харэографа абавязкова.

Расце колькасць самадзейных харэаграфічных калектываў у рэспубліцы, і разам з тым множацца самыя процілеглыя погляды на сучасную харэаграфію. Праблем тут шмат. Падыходаў да праблем—яшчэ больш. Думаецца, што сёння, як ніколі вострa, наспела неабходнасць выпрацаваць правільны погляд на шляхі развіцця самадзейнага харэаграфічнага мастацтва. Гэты погляд павінен грунтавацца на вернасці народным танцавальным традыцыям, на шчырай зацікаўленасці развіваць іх і памнажаць.

---

ЯСКАЗАЎ ужо раней: гэты нарыс—пра каханне. Удакладню — пра каханне мужных.

Вось яно — сведчанне мужнасці, якое хвалявала, хвалюе і, канечне, будзе хваляваць надалей.

Маленькую, кволую жанчыну, счарнелую ад пабачанага і перажытага за апошнія дні і ночы, прыводзяць 3 сакавіка 1881 года на першы допыт.

Пратакол застаецца кароткі:

«Завуць мяне Геся Міронаўна Гельфман. Ад роду маю 26 год, веравызнання іудзейскага. Званне маё мяшчанка г. Мазыра, Мінскай губерні, незамужняя. Ні на якія пытанні, што датычаць асабіста мяне, а таксама асобы, якая застрэлілася сёння ўначы ў той кватэры, дзе я была арыштаваная, і рэчаў, знойдзеных у той кватэры, я адказваць не жадаю. Прад'яўленая мне зараз фатаграфічная картка — сапраўды мая».

Усё.

Тое самае—5, 6, 8 сакавіка. «Не ведаю...», «ведаю, але сказаць не жадаю...», «адказваць не жадаю...». Адзінае, чаго не ўтойвае, аб чым гаворыць хоць таксама коратка, але яўна з гонарам—гэта аб прыналежнасці да «Народнай волі».

Трошачкі большы пратакол—пасля допыту 12 сакавіка. Яе паказалі тады дворніку дома № 27 па Троіцкім завулку, дзе некалькі месяцаў яна і Макар Цяцёрка гаспадарылі на канспіратыўнай кватэры. Але і тут—толькі пра сябе і толькі агульнымі словамі, так, каб ніводнага новага факта не паведаміць, нікому з таварышаў не пашкодзіць. Паколькі вам, панове жандары, усёроўна вядома ўжо, што на той кватэры знаходзілася друкарня «Рабочей газеты», то, калі ласка, знаходзілася, і я, Гельфман, «як знаўца наборнай часткі, была наборшчыцай», а таксама «раздавала нумары названай газеты ў асяроддзі рабочых—але дзе менавіта, гэта значыць, на якіх фабрыках, заводах або ў кватэрах, дзе бывалі рабочыя, я сказаць не жадаю...» Пратакол цікавы яшчэ тым, што ў канцы яго захавалася адзіная напісаная рукою Гесі фраза, што засталася праз гады. Фраза, якая пры варварскай сваёй арфаграфіі прымушае з павагай думаць пра тое, як многа, значыць, несла жанчына ў душы, калі пры такім узроўні пісьменнасці заваявала пашану, дружбу, каханне людзей, што ўвайшлі не толькі ў гісторыю рэвалюцыі, але і ў гісторыю культуры. Фраза, якую, дальбог, не так проста і перапісаць: *«Геся Гельфманъ поповоду настоячего предъявленія прашу записовайть мои показани»*.

Усе тры дні працэсу—з 26 па 29 сакавіка — найбольшую цікавасць і суддзяў, і нешматлікай дыстыляванай публікі прыцягвалі, вядома, эфектны Жалябаў, неяк будзённа-спакойная поруч з ім Пяроўская, істэрычны Рысакоў, занепакоены, здавалася, адно лёсам свайго праекта Кібальчыч. Пра Міхайлава і Гельфман гаварылася няшмат і як бы мімаходзь. «На судовым следстве, — сказаў, прынамсі, пракурор Мураўёў, — цэнтр цяжару барацьбы засяроджваецца на тым, што Рысакоў указваў на ўдзел Гельфман і Цімафея Міхайлава, а Жалябаў і Пяроўская ўсе свае запозненыя намаганні скіравалі на тое, каб выгарадзіць, наколькі гэта магчыма, са справы падсудных Гельфман і Цімафея Міхайлава. На гэта я магу заўважыць толькі адно: калі ім цяжка глядзець на тое становішча, у якім знаходзяцца падсудныя Цімафей Міхайлаў і Гельфман, з якога, я думаю, яны не могуць выйсці ні ў якім разе, то ім трэба было падумаць пра гэта раней». Але на ўсіх судовых пасяджэннях наша гераіня паказала сябе вартай даверу правадыроў партыі, разам з якімі яе судзілі. У скупых яе адказах—ні прыніжанасці, ні страху, ні, тым больш, якіх-небудзь дадатковых, раней абвінавачанню невядомых звестак.

29 сакавіка на працэсе абвяшчаецца рэзалюцыя суда—усім шасці шыбеніца.

30 сакавіка гэты прыгавор абвяшчаецца ў канчатковай форме.

Можна яшчэ падаць касацыйную скаргу. Можна яшчэ, як Рысакоў, як Цімафей Міхайлаў, падаць прашэнне аб памілаванні.

Яна не скардзіцца. Не моліць аб літасці. У яе—адзіная просьба. Просьба, якая выліваецца адвакатам у два пісьмы.

Першае—пракурору акруговай судовай палаты Плеве:

«З прычыны маючага быць выкананым нада мною прыгавору... перад смерцю, у апошнія гадзіны жыцця звяртаюся да вашага правасхадзіцельства з самаю пачцівaю просьбай дазволіць мне спатканне са зняволеным, паводле маіх меркаванняў, у с.-пецярбургскай крэпасці дваранінам Мікалаем Мікалаевічам Каладкевічам.

Не адмоўце ў гэтай перадсмяротнай просьбе...»

Другое—дырэктару дэпартамента паліцыі Веліа:

«Будучы асуджана на пакаранне смерцю, я ў апошнія гадзіны жыцця маю гонар самым пачцівым чынам прасіць дазволіць мне спатканне з дваранінам Мікалаем Мікалаевічам Каладкевічам, які мне ў гэтыя апошнія гадзіны жыцця асабліва дарагі. Смею спадзявацца, што ў гэтай просьбе мне не будзе адмоўлена...».

Мінае гадзіна, другая, пятая... Адказу няма. А ёй трэба, ах, як трэба пабачыць Каладкевіча! Яна сцярпела б, яна не прасіла б аб гэтым спатканні, калі б не пільная, вельмі пільная патрэба. Як ім растлумачыць, што толькі гэты, адзіны чалавек на зямлі можа—мае права!—ёй зараз памагчы, параіць, падказаць...

Яна не дачакалася адказу. Бо толькі назаўтра барон Веліа паставіў на пададзеным яму прашэнні рэзалюцыю: «Спатканне паміж двума злачынцамі не дазваляецца па правілах». І толькі 2 красавіка напісаў тое самае на прашэнні, перасланае яму ж, Веліа, пракурорам Плеве. А Геся яшчэ таго ж 30 красавіка, а 10-й гадзіне вечара перастала спадзявацца на дазвол спаткання з Каладкевічам і сама прыняла рашэнне, на якое хацела яго парады і канчатковага слова.

Выконваючаму абавязкі пракурора пры спецы-

---

Заканчэнне. Пачатак у нумарах 23 і 24.

# І БЫЛО ЯШЧЭ КАХАННЕ

Ул. МЕХАЎ

## «НАРОДНАЯ ВОЛЯ». ЛЁС ДЗЯЎЧЫНЫ З ПАЛЕСКАГА ГАРАДКА

яльным судзе, які вёў працэс, пайшла ад всуджанай Гельфман заява:

«З прычыны прыгавору спецыяльнага суда сената, які наконт мяне адбыўся, лічу маральным абавязкам заявіць, што я цяжарная на чацвёртым месяцы. Падаць гэтую заяву давяраю прысяжнаму паверанаму Аўгусту Антонавічу Герке...».

Вось калі адгукнуліся і ўладна напомнілі пра сябе іх рэдкія, нядоўгія, таропкія, але як жа гарачыя, як жа неспатольна-палкія спатканні! Вось дзе праклюнулася і заявіла пра сваё права на месца пад сонцам жыццё, пачатак якому дало іх каханне! Будзьце ж вы слаўныя і ў сваім харастве, і ў сваёй няўмольнай жорсткасці, адвечныя законы прыроды!

Два высокія абавязкі сутыкнуліся ў сэрцы маленькай жанчыны, замкнёнай у змрочнай каменнай клетцы. Сутыкнуліся і разрываюць яе чуйнае сэрца. Жалябаў, Пяроўская, Кібальчыч, сябры, не падасца вам, што Геся проста збаялася шыбеніцы? Табе, самы дарагі чалавек,—не падасца? Не скажа хто-небудзь з таварышаў на волі, што гонар, абавязак рэвалюцыянера—найпершае, і што нават такая заява—усё-такі ганебная для рэвалюцыянера, усё-такі просьба аб літасці?..

А калі заяву вярнуць, адмовіцца ад яе? Грукнуць у дзверы наглядчыку і запатрабаваць неадкладна адваката... Не жахнуцца тады мільёны і мільёны жанчын? Не палічаць яе забойцай уласнага дзіцяці? Бацька гэтага дзіцяці—не палічыць? І хіба ён праўда меншы—яе абавязак перад маленечкім жыццём, якому шыбеніца прысудам не прадугледжана і якое магчыма толькі пры ўмове яе жыцця?.. Потым зноў жа—хіба яны з адвакатам напісалі «прашу памілаваць»? Яны напісалі—«лічу маральным абавязкам заявіць...»

Сутыкнуліся ў сэрцы маленькай жанчыны два высокія абавязкі. І няма нікога побач, хто б супакоіў, хто б сказаў, які з іх вышэйшы...

У мемуарах выдатнага рускага юрыста Анатоля Фёдаравіча Коні ёсць з прыкрасцю напісаныя радкі аб тым, як у часе «працэсу 193-х» — славутага палітычнага працэсу над прапагандыстамі-народнікамі—па пецярбурскіх свецкіх салонах смакаваліся самыя брыдкія плёткі аб адносінах паміж мужчынамі і жанчынамі—удзельнікамі гэтага працэсу. Таму, калі ўяўляю, як сабраўся па гесінай заяве сінкліт саноўнікаў, так і бачу над каўнярамі мундзіраў юрлівыя ўсмешачкі. Як, як пазначана ў пратаколах допытаў—«незамужняя»? А 6-га чысла, хе-хе, нават «дзяўчына»? Нішто сабе дзяўчына — на чацвёртым месяцы! Трэба будзе прыглядзецца да таго зуха Каладкевіча. Як там у яе прашэнні—«які мне ў гэтыя апошнія гадзіны асабліва дарагі»? У гэтыя, хе-хе. А ў тыя?..

Аднак увогуле сінкліту не да жартачак. Прыгавор—нікуды не дзенешся!—пераглядаць усё-такі трэба. Пісакам розным, лібералам гэтым толькі дай такое ў зубы—цяжарная на шыбеніцы... Ды сваіх яшчэ можна б і прыструніць—дзякаваць богу, цэнзурнаму камітэту і жандармерыі толькі мігні. А вось там, у Еўропах... Бо дакоціцца ж, вельмі хутка дакоціцца!..

Пасля медыцынскай экспертызы, пасля кансультацыі наверсе суд прыняў 1 красавіка пастанову—выкананне прыгавору над Гельфман адтэрмінаваць, перанесці яго на саракавы дзень пасля родаў...

І Мазыр, убогі, затлумлены нязбыўнымі клопатамі Мазыр, зноў разварушаны Гесяй Гельфман! Газеты ж прыходзяць і сюды. Ёсць людзі і тут, што іх чытаюць!

У Цэнтральным гістарычным архіве БССР захоўваецца тэлеграма, якую 11 сакавіка 1881 года, а пятай гадзіне апоўдні, паслаў з Мазыра ў Мінск губернатару спраўнік Нікалаеў.

«У 76-м нумары газеты «Голос» у спісах асоб, аддадзеных суду, значыцца Геся Гельфман,— гаворыцца ў тэлеграме.—Гэтая асоба жыла раней у Мазыры, а потым у Кіеве, дзе была западозраная ў палітычных справах, і ў мужа сястры яе быў зроблены таварышам пракурора Меерам вобыск, але нічога падазронага не знойдзена. Сястра Гесі Тэма паказала, што яна, Геся, утрымлівалася ў Петрапаўлаўскай крэпасці і потым кудысьці саслана адміністрацыйным парадкам і прадставіла мне фатаграфічную картку, якую вышлю пазней...»

Сапраўды, паслаў назаўтра ж. Рапарт, што быў прыкладзены да фотакарткі, таксама захоўваецца:

«У дадатак да тэлеграмы маёй ад 11 сакавіка маю гонар падаць пры гэтым фатаграфічную картку Гесі Гельфман, аддадзеную мне сястрою Гесі Тэмаю Мееравінаю Гельфман, а па мужы Голубаваю. Тэма растлумачыла мне, што картку яна атрымала года паўтара назад ад сястры, пасля вызвалення яе з крэпасці, пры пісьме, дзе быў напісаны адрас Гесі, але паколькі пісьмо гэтае згубілася, то Тэма, не памятаючы адраса Гесі, не магла пісаць да яе і больш пісьмаў ад яе не атрымлівала, і дзе яна знаходзіцца цяпер, рашуча не ведае.

Дакладваючы пра вышэй пададзенае, маю гонар самым пачцівым чынам давесці Вашаму Правасхадзіцельству, што Тэма Голубава, сястра Гесі Гельфман, удава, муж яе памёр у пачатку мінулага года, яна жыве стала ў Мазыры, займаецца гандлем шкляным посудам і ні ў чым недазволеным не заўважана. Дакладных звестак, калі і з якой прычыны быў зроблены таварышам пракурора Меерам вобыск у мужа сястры Гесі Голубава, даць не магу, таму што ў паліцэйскім упраўленні на гэты конт не было ніякай перапіскі, а вобыск быў зроблены ў выніку асабіста атрыманага ім, Меерам, даручэння».

21 сакавіка губернатар паслаў змест таго, што паведаміў яму Нікалаеў, вышэй, у дэпартамент паліцыі...

Ніхто сёння не скажа—сапраўды згубіла Тэма гесіна пісьмо ці хітравала, засвоіўшы горкую ісціну, што лепш, калі паліцыі вядома як найменей. Цікавы сам факт пісьмаў Гесі ў Мазыр—яшчэ адно сведчанне яе дабрыні, яе цёплых пачуццяў да сваякоў, дараванне ім колішняй крыўды.

А Мазыру яшчэ размоў і размоў пра яе. Па крамках, канторках, будках саматужнікаў, малітоўных дамах. Такі шаноўны чалавек, як Меер Гельфман,—і дачка на лаве падсудных з царазабойцамі. І высвятляецца—чулі?—што яна цяжарная. Які там муж, тое і яно, што ніякага мужа! Яўрэйская дзяўчына!.. Не сумнявайцеся—канечне, ад гоя...

Хапае размоў пра яе Мазыру...

●

Як судовы сінкліт прадчуваў, так і здарылася. Еўропа загаварыла. Ды як жа хутка, ды як жа гучна.

Пётр Аляксеевіч Крапоткін. Пратэст-пракламацыя, расклееная на вуліцах Жэневы:

«Грамадзяне!

Немагчымае ні ў якой цывілізаванай краіне адбылося ў Расіі.

Павешана жанчына—Соф'я Пяроўская. Другая жанчына—Геся Гельфман, нягледзячы на тое, што яна цяжарная, таксама асуджана на смерць. Яе пасадзілі ў турму, дзе будуць трымаць да таго моманту, пакуль яна родзіць. На працягу цэлых пяці месяцаў над ёю будзе ўчыняцца маральнае катаванне, яна штодзённа будзе адчуваць пятлю на сваёй шыі, ведаючы, што гэтая пятля задушыць яе адразу ж, як толькі яна стане маці...

...Мы выказваем наш гнеў і наш пратэст, і мы не сумняваемся, што ў Швейцарыі прагучаць гарачыя пратэсты супраць такога вяртання да варварства даўно мінулых часоў...»

Анры Рашфор—імя, што грыміць не ў адной Францыі. Артыкул 2 мая 1881 года ў найпапулярнейшай «L'Intransigeant» («Непрымірымы»):

«...З усіх бакоў мы атрымліваем пісьмы, поўныя жаху і пратэсту супраць шыбеніцы, якая пагражае не толькі жанчыне, а і яе нованароджанаму дзіцяці.

Час не цярпіць. Іх абоіх пільнуе кат. І сябры, якія дасылаюць нам пісьмы, і мы, хто ў сваёй газеце ім адказваем, дастаткова пісалі. Надышоў час дзейнічаць інакш, чым папрокамі і скаргамі.

«L'Intransigeant» прыняў канчатковае рашэнне — вырашыў сумесна са сваімі таварышамі па прафесіі і са сваімі сябрамі ў дэпартаментах Францыі арганізаваць аднačасова ў Ліёне, у Марселі, у Бардо, Тулузе, Манпелье, Сент-Эм'ене, словам, ва ўсіх гарадах, дзе ў грудзях у мужчын і жанчын б'юцца сэрцы, а таксама ў Парыжы, велізарныя мітынгі пратэсту супраць задушэння як асуджанай ужо маці, так і не асуджанага немаўля...»

Казімір Буі. Артыкул у тыя ж дні ў газеце Le litogen de Paris» («Грамадзянін Парыжа»):

«...Гэтая жанчына—Геся Гельфман—асуджана на шыбеніцу. Кат чакае, пакуль яна родзіць.

І дзень, і ноч, кожнае імгненне ў грудзях гэтай жанчыны, якая заклінае сваё дзіця застацца ў ёй, разам з трапятлівым немаўлём варушыцца і шыбеніца.

Аляксандр, як цар, не можа зразумець плачу дзіцяці: як цар, ён не літуе нават свяшчэннага лона маці. Дзіця—што такое дзіця для імператара?

Дык будзь жа царом да канца. Побач з шыбеніцай для Гесі пастаў другую для нованароджанага—і хай перад смерцю Геся ўбачыць, як накінуць пятлю на шыю яе дзіцяці».

Расійскаму паслу ў Парыжы графу Арлову ніякавата. Расійскі пасол дасылае ў Пецярбург 7 мая нервовую сакрэтную тэлеграму: «Зрабіце ласку, паведаміце, ці праўда, што прыгавор Гесі Гельфман змякчылі. Газеты гавораць пра яе дачасныя роды».

З дэпартамента паліцыі ў міністэрства замежных спраў, а адтуль у Парыж паслу, ідзе не менш нервовы адказ, што памянёныя ў тэлеграме звесткі—мана, што няма для іх ніякай падставы.

Ах, гэтая Гельфман, як яна недарэчы са сваёй цяжарнасцю, калі расійскі ўрад усяляк да Францыі прыдобрываецца, марыць аб франка-рускім ваенным саюзе!..

Новы міністр унутраных спраў граф Ігнацьеў (усемагутнага раней Лорыс-Мелікава на гэтай пасадзе ўжо няма: мяняюцца цары—мяняюцца фаварыты), разумее, як здорава, своечасова было б паказаць крыклівай Еўропе, што пісакі яе маняць, быццам утрымліваецца Гельфман у недапушчальна цяжкіх умовах. А яшчэ больш здорава было б наогул заткнуць гэтым пісакам раты — памілаваць Гельфман. Шыбеніц, мабыць, сапраўды апошнім часам у краіне задужа.

Але граф Ігнацьеў разумее таксама, што зрабіць гэта трэба разумна. Прасцей за ўсё даць абвяржэнне ва ўрадавай газеце—маўляў, няпраўда, што з Гельфман кепска абыходзяцца. А хто такому абвяржэнню дасць веры?.. Што ж датычыць яе памілавання, то ўрад наогул выставіцца смешным, слабым, палахлівым, калі сам, з прычыны толькі газетнай кампаніі, адступіцца ад ранейшай цвёрдасці і пачне пераглядаць прыгавор—маўляў, вось вам, панове газецяры, памілаванне, калі ласка, супакойцеся...

Граф Ігнацьеў знаходзіць хітрэйшае выйсце з сітуацыі: хай жаданае абвяржэнне надрукуе газета, якую на Захадзе лічаць левай, самастойнай, нават апазіцыйнай. А на памілаванне хай падасць прашэнне сама Гельфман. Вось і ўрад будзе выглядаць не баязлівым, а гуманным, і еўрапейскія мітынганты гарлапаніць перастануць.

«Апазіцыйным» халуём, які найлепшым чынам выканаў задуму міністра, стала газета «Голос». 23 чэрвеня яе карэспандэнт разам з абаронцам Гельфман А. А. Герке пабываў у Петрапаўлаўскай крэпасці (Гесю перавялі сюды з дома папярэдняга зняволення яшчэ ў красавіку), а ўжо назаўтра, 24 чэрвеня, у газеце з'явіўся расказ пра гэтыя адведзіны. З вернападданіцкім імпэтам у расказе даводзілася, што зарубежныя паведамленні—«усё гэта мана не столькі тэндэнцыйная, колькі недасведчаная». Ён, карэспандэнт, гаварыў з дзяржаўнай злачынцай Гельфман гадзіну і дваццаць мінут, і яна запэўніла яго, што «са мною абыходзіліся як належыць і як указвае закон». Камера Гельфман «забяспечана рашуча ўсім неабходным і, што галоўнае, зусім дастатковай колькасцю святла і паветра». Апранута Гельфман у «доўгае карычневата-шараватае паліто, зашпіленае на ўсе гузікі, з-пад якога відаць была чорная шарсцяная сукенка; на шыі завязана белая хусцінка; з рукавоў паліто відаць зусім чыстая бялізна». Гельфман расказала, што будучае сваё дзіця яна хацела б перадаць сваякам ягонага бацькі, бо яе, гесіны, сваякі—фанатыкі...

Ах, як дагадзілі лібералы з левага «Голоса» цараву міністру ўнутраных спраў!..

Ды нешта далёка не такімі ідылічнымі выглядаюць і ўмовы ўтрымання Гельфман, і самаадчуванне яе з пісьма, якое тады ж накіраваў ужо дырэктару дэпартамента паліцыі Плеве прысяжны паверані Герке.

Вось яно, гэтае пісьмо:

«Ваша правасхадзіцельства

Вячаслаў Канстанцінавіч.

Прыносячы падзяку за дадзены Вамі мне дазвол на спатканне з асуджанаю Гесяю Гельфман, маю гонар паведаміць, што спатканне гэтае адбылося сёння, у прысутнасці п. карэспандэнта газеты «Голос» Калугіна, штабс-капітана Сакалова і капітана Лесніка, у С.-Пецярбургскай крэпасці. Я пабыў з Гесяю Гельфман каля гадзіны, знайшоў, што яна крыху змянілася ў параўнанні з тым днём, калі кончыўся касацыйны тэрмін: яна, відаць, траціць сілы, стала малакроўная, вусны зусім бяскроўныя, дыханне парывіста-кароткае, думае і гаворыць, як моцна стомленая або ачунялая пасля хваробы. Яна скардзіцца на тое, што прадугледжаная правіламі ежа (суп або капуста і крыху менш $1/2$ фунта ялавічыны; раніцай да 1-й гадзіны ёй нічога не даюць; чаю не дазваляецца) недастатковая для падтрымання яе здароўя, пры яе цяжарнасці; таксама просіць аб узмацненні медыцынскай дапамогі. Просьбу, ёю заяўленую, аб пераводзе яе ў якое-небудзь турэмнае памяшканне, дзе б яна магла быць у турэмнай бальніцы і карыстацца лазарэтнай порцыяй ежы, я адмовіўся перадаць. (Дарэчы, яна прасіла перадаць гэтую просьбу графу Лорыс-Мелікаву; я не палічыў сваім правам, згодна дадзеных мне ўказанняў, сказаць ёй аб пераменах у асабістым складзе міністэрстве). Указанне на недастатковасць ежы і просьбу аб дазволе каму-небудзь з акушораў аказваць ёй дапамогу я абяцаў перадаць каму належыць, што гэтым і выконваю...».

Далей пісьмо яшчэ больш цікавае. Цікавае тым, што з яго відаць, як нялёгка было абаронцу Гельфман выканаць далікатнае даручэнне міністра — схіліць падабаронную на падачу прашэння аб памілаванні.

«...Я асабліва стараўся ўгаварыць Гельфман падаць прашэнне на высачайшае яго імператарскай вялікасці імя аб змякчэнні лёсу яе. Як я ўжо казаў вам, я лічу сябе абавязаным, як былы на судзе абаронца яе па прызначэнні, аказаць садзеянне да падачы ёю такой просьбы, бо не магу не бачыць розніцы паміж вінаватасцю яе (па законе, несумненна, вартаю смяротнай кары) і вінаватасцю іншых цяразабойцаў, павешаных ужо; учыненне ёю злачынства ў час цяжарнасці і тады, калі блізкая ёй асоба (як гэта я даведаўся пасля прыгавору ўжо) была ўжо прыцягнута да суда, — канечне, таксама павінна б паўплываць на змякчэнне пакарання, калі б паводле манаршай міласэрнасці дазволена было зменшыць суровасць закона. Нарэшце, неадкладная пасля абвяшчэння прыгавору смяротная кара, і смяротная кара, якая чакаецца цяжарнаю жанчынай у адзіночным зняволенні на працягу некалькіх месяцаў, — пакаранні далёка не зусім роўныя. Вось па гэтых меркаваннях (вядома, не выказаных у прысутнасці Гельфман) я ўгаворваў яе падпісаць прашэнне аб памілаванні. Яна спачатку адмаўлялася, тлумачачы, што не можа даць падпіскі аб раптоўнай змене пераканання і што згадзілася б падпісаць толькі прашэнне аб паляпшэнні ежы і медыцынскай дапамогі. Пасля перамоў аб рэдакцыі прашэння—прычым я ёй растлумачыў, што больш важнае сапраўднае яе раскаянне, чым абвешчанае на паперы,—яна згадзілася падпісаць прашэнне ў вядомай рэдакцыі. Я тады ж напісаў прашэнне ва ўказанай ёю рэдакцыі, і яна яго падпісала. Прашэнне гэтае было перададзена пры мне яго высокаправасхадзіцельству п. каменданту і будзе ім пераслана да вас. Калі б пры далейшым разглядзе пра-



шэння патрабавалася змена рэдакцыі, то прашу зноў мне дазволіць перагаварыць пра гэта з Гельфман; але, са свайго боку, я б прасіў (калі толькі маю права прасіць) не спыняцца на рэдакцыі, а бачыць у падпісаным Гельфман прашэнні толькі зварот да бязмежнай літасці гасудара імператара...».

«Угаворваў...», «растлумачыў...», «я б прасіў не спыняцца на рэдакцыі...»—якія да гэтых слоў патрэбен каментарый!

Знясіленая, душэўна скатаваная, здавалася б, глухая пры сваіх неладах з пісьменствам да тонкасцей стылю,—а стаіць на сваім не хоча даваць поваду для размоў «аб раптоўнай змене перакананняў», патрабуе новага і новага варыянту прашэння, які б не зняважыў яе чалавечай, рэвалюцыйнай годнасці.

Згадзілася, урэшце, на такі варыянт:

«Ваша імператарская вялікасць, аўгусцейшы гасудар.

Знаходзячыся цяпер, пасля абвешчанага мне прыгавору аб смяротнай кары, аж да прывядзення гэтага прыгавору ў выкананне, у С.-Пецярбургскай крэпасці, пры ўмовах, якія не дазваляюць ні харчавання, ні медыцынскай дапамогі, неабходных для паляпшэння сапсаванага майго здароўя, усепадданейшым чынам прашу вашу імператарскую вялікасць пажадаць загадаць аб змякчэнні майго цяжкага зняволення і аб літасцівай замене прызначанага па судзе пакарання, смяротнай кары, меншым пакараннем.

Геся Гельфман.

23 чэрвеня 1881 г».

Уяўляю скрыўлены твар міністра. Выседзелі, называецца, прашэннейка. Дагадзілі. Дзе тут пакаянне! Дзе тут укленчанасць да міласэрнасці памазанніка! Пра ежу, бачыце, яна турбуецца, пра дактароў!...

Зрэшты, міністру патрэбна любая паперка за подпісам Гельфман. Публікаваць яе ніхто не збіраецца. Было б на што спаслацца ў афіцыйным паведамленні аб памілаванні.

2 ліпеня 1881 года такое паведамленне з'яўляецца. **Шыбеніца заменена Гесі Гельфман** вечнай катаргай.

●

Я ШЧЭ КАЛІ СУД над удзельнікамі замаху 1-га сакавіка не адбыўся, сярод шматлікіх чутак, якімі кішэў у чаканні Пецярбург, хадзіла і чутка аб магчымасці іх памілавання. І яна занепакоіла обер-пракурора сінода К. П. Пабеданосцава. І славуты гэты цемрашал, адыёзная фігура нават сярод самых махровых рэакцыянераў, выказаў свой непакой у пісьме да цара. Цар супакоіў вернага слугу і настаўніка. «Што ўсім шасці будзе смяротная кара, гэта я ручаюся», — напісаў ён на тым пісьме.

На словах даруючы адной з шасці жыццё, цар не збіраўся адступіцца ад ранейшага заручэнства. Увесь далейшы лёс Гесі Гельфман — тая самая смяротная кара. Толькі марудная і пакутлівая.

Яна нарадзіла 12 кастрычніка. Дачку. Яшчэ перад родамі яе прывеціў высокай увагай свяціла тагачаснага акушорства прафесар Баландзін. Агледзеўшы Гельфман, ён перадаў турэмнай адміністрацыі (Гельфман пасля перагляду прыгавору зноў вярнулі ў дом папярэдняга зняволення), што мае загад прысутнічаць пры родах і просіць аб іх надыходзе адразу яму паведаміць.

Злачынца, катаржніца — і ўрадавы загад памагаць ёй пры родах лепшаму з вучоных акушораў! Узор афіцыйнай гуманнасці, ці ж няпраўда?...

Не спяшайцеся з вывадам. Не прымайце жаданае за існае. Дужа падазрона тое, што прафесар Баландзін не дапусціў на час родаў да Гельфман нікога з іншых медыкаў — заставаўся з ёю толькі сам ды прыведзеная ім акушорка. Дужа падазрона, што, перадаючы потым парадзіху турэмнаму ўрачу, Баландзін рашуча забараніў таму накладаць хворай яўна неабходныя для зажыўлення цяжкіх разрываў швы. Баландзін быў спецыяліст самай высокай кваліфікацыі. Ён не мог не разумець, што арганізм Гельфман занадта знясілены і, значыць, вынік яго забароны можа быць, урэшце, толькі адзін...

«Для дзіцяці Гесі Гельфман была прынесена цудоўная дзіцячая бялізна, — чытаем на старонках «Народнай волі» № 8—9, — але як толькі дактары пайшлі, яго загарнулі ў грубое арыштанцкае рыззё; маці стала шкада сваё дзіця, але на просьбу яе — пакінуць бялізну, ёй адказалі, што ўрад не мае намеру гадаваць нягоднікаў...».

24 лістапада турэмны ўрач адзначае ў Гельфман прыкметы запалення каляматачнай брушыны і моцны азноб.

17 студзеня гэты працэс абвастраецца.

25 студзеня пры страшэнным азнобе пераходзіць у агульнае запаленне брушыны.

1 лютага 1882 года Геся Гельфман памірае.

Прафесар Баландзін, прыміце ўрадавую падзяку за ўзорнае выкананне далікатнага даручэння!..

А што ж дзіця? Куды падзелася яно — немаўля, з'яўленне якога на свет адзначана гэткім выбухам страсцей, сутычкай жорсткасці і гуманізму.

Нямала людзей — ад блізкай Гесі сяброўкі Вольгі Любатовіч да чужых, незнаёмых ёй вялікасвецкіх дабрадзеяў — хвалявалася за яго лёс, хацела ўзяць яго на выхаванне. Ва ўспамінах Анны Паўлаўны Корбы-Прыбылевай, члена Выканаўчага камітэта «Народнай волі» і таксама, дарэчы, нашай зямлячкі-мінчанкі, расказваецца, прынамсі, як прасіла аб гэтым маці Дзягаева — добрая, чулая жанчына, якая, канечне ж, і думаць не магла, што сын яе Сяргей, матчын яе гонар, на той час сапраўды сумленны рэвалюцыянер, выйдзе праз год з турмы правакатарам і застанецца ў гісторыі «Народнай волі» са славай чорнага здрадніка. «...Яна выклікала мяне да сябе праз кагосьці і са слязьмі на вачах прасіла памагчы ёй атрымаць гэтае дзіця на выхаванне, — чытаем ва ўспамінах. — Я абяцала зрабіць усё, што будзе магчыма, але ўжо тады выказала сумненне ў ажыццявімасці такога праекту...»

Так, цар, вядома, не мог пагадзіцца, каб гэтае дзіця выхоўвалася дзе-небудзь у клапатлівай сям'і і каб любоўю да яго аддавала тая сям'я — і не яна адна — даніну пашаны ягоным скатаваным бацькам. За сем дзён да Гесінай смерці, таго ж 25 студзеня, калі, паводле сведчання турэмных урачоў, працэс захворвання яе «пры страшэнным азнобе перайшоў у агульнае запаленне брушыны», урад адабраў пакутнае дзіця ў пакутніцы-маці. Пад нумарам А-824 яно было перададзена ў Пецярбургскі выхаваўчы дом. 27 студзеня пра гэта даведзена было цару, і на дакладзе міністра ўнутраных спраў флігель-ад'ютант пазначыў: «Высачайша загадана, каб дачка Гельфман насіла іншае прозвішча і не была ні ў якім разе прынятая ў выхаваўчы дом пад ранейшым найменаваннем». Хадзілі чуткі, што слабенькая, кволая дзяўчынка ў выхаваўчым доме неўзабаве памерла. Але наколькі гэта дакладна — не ведае ніхто....

Загадчык Пецярбургскага дома папярэдняга зняволення 2 лютага 1882 года ў сакрэтнай адносіне дырэктару дэпартамента паліцыі далажыў, «што ў ноч з 1 на 2 гэтага лютага а 2 гадзіне 10 мін. труп Гельфман згодна загаду п. обер-паліцмайстра за № 1624 здадзены пад распіску залічанаму ў штаце паліцыі карнету Кісялёву».

●

А ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ, 8 лютага 1882 года, пачаўся ў Пецярбурзе славуты «працэс 20-ці». Працэс, якім наносіўся «Народнай волі» непапраўны ўдар. Адзін з апошніх удараў. Бо дужа ж мала тых, хто партыю арганізоўваў, хто быў яе апорай і надзеяй, заставалася пасля працэсу на волі. І дужа ж цяжка стала ім абыходзіць воўчыя ямы і пасткі паліцыі. Нават на самай вяршыні партыйнай піраміды, на чале Выканаўчага камітэта, і то неўзабаве апынецца правакатар — памянуты ўжо намі Сяргей Дзягаеў. Спраўджвалася прадбачанне тых, хто пры самым нараджэнні партыі выбраную ёю тактыку не прымаў, гаварыў аб згубнасці яе і памылковасці. Раскрываліся вочы на гэта нават у такіх нядаўна палымяных прыхільнікаў рэвалюцыйнага тэрору, як Сцяпняк-Краўчынскі.

Успомніце: пачынаючы расказ пра Каладкевіча, мы прывялі выказванні аб ім яго сучаснікаў — і тых, хто быў яму блізкі, і тых, каму давялося яго толькі бачыць. Два тыя выказванні — уражанне ад таго, як трымаўся Каладкевіч на «працэсе 20-ці». Гэта радкі з пісьма Аляксандра Міхайлава: «Каладкевіч — сапраўдны апостал свабоды. Такія чыстыя, такія простыя, такія велічна-прыгожыя яго ўчынкі, яго словы, яго рухі...» І гэта—запіс невядомага, скарыстаны аўтарам нататак аб працэсе, змешчаных у дадатку да газеты «Народная воля» № 8—9: «Самы выразны твар у Каладкевіча. Яму, відаць, цяжка стрымліваць гнеў, але сіла волі адольвае: ён стрыманы, спакойны...»

Апошняе сведчанне належыць не другу, не аднадумцу падсудных. Працэс быў закрыты. Ніякай публікі, ніякіх карэспандэнтаў. Час ад часу заходзілі ў пустую залу толькі міністр унутраных спраў, міністр юстыцыі, яшчэ той-сёй з вышэйшых саноўнікаў, ды з ложы цікавала замкнёная там мужам і зацененая фіранкай жонка пракурора Мураўёва. Значыць, весці з дня ў дзень запісы — хто як з падсудных выглядае, ды як трымаецца, ды што гаворыць — мог толькі нехта з дапушчаных, нехта з варожага стану. Тым цікавейшая для нас павага, што ў гэтых запісах гучыць.

Ні ў мемуарах, ні ў архівах ні слова не трапляецца пра тое, як адгукнуўся Каладкевіч на вестку аб смерці Гесі. Але ў пісьме Аляксандра Міхайлава да таварышаў, пазначаным 15 лютага, днём, калі працэс яшчэ не кончыўся, ёсць такія радкі: «1 лютага памерла тут Геся Гельфман ад запалення брушыны, прычынай якога было скалечанне маткі пасля родаў. За тыдзень да смерці ў яе адабралі дзіця і аддалі ў выхаваўчы дом, і гэта паскорыла яе смерць». А калі ведалі пра пакутную Гесіну смерць сябры, што сядзелі побач з Каладкевічам на лаве падсудных, значыць, ведаў, канечне, і ён. Які ж цяжар у яго быў на сэрцы і як мужна і цвёрда трымаўся ён усе дні працэсу..

Немінучасць таго, што яго чакае, быццам зусім не займае ягоныя думкі. Ён толькі ўпарта, да канца, зноў і зноў вяртаецца да нейкіх важных для сябе, для чысціні свайго сумлення высноў, і хоча падзяліцца гэтым з суддзямі, з усімі, хто яго чуе ці пачуе праз іншых.

Вось ён устае для апошняга слова. Паводле запісу таго самага невядомага, «вельмі паважны, высокага росту, вельмі хударлявы, прадаўгаваты твар, чорныя валасы, такая ж вялікая барада, чорныя вочы і цёмныя акуляры, сам бледны». Ён пачынае пра ўмовы, якія прывялі яго на шлях змагання, пра несправядлівасць дзяржаўнага ладу, спрабуе зазірнуць у мінулае, у гісторыю. Але старшыня суда па горла сыты ранейшымі прамовамі падсудных, ён нервова перабівае Каладкевіча...

Дзесяць смяротных прысудаў прагучала на гэтым працэсе. У тым ліку — Каладкевічу. І зноў ускалыхнуліся Расія, Еўропа, свет. З адозвай да Аляксандра III звяртаецца сівы рамантык Віктор Гюго. Пафасна, як можа толькі ён: «Цывілізацыя павінна ўмяшацца! Зараз перад намі бязмежная цемра; сярод гэтай цемры дзесяць чалавечых істот, з іх дзве жанчыны (дзве жанчыны!), асуджаны на смерць, і дзесяць іншых павінен паглынуць рускі склеп — Сібір. Навошта? Навошта гэтае цкаванне? Навошта гэтае зняволенне?.. Хай рускі ўрад засцеражэцца. Ён лічыць сябе ўрадам законным. Законнаму ўраду баяцца няма чаго. Няма чаго баяцца свабоднай нацыі, няма чаго баяцца законнага парадку рэчаў, няма чаго баяцца палітычнай сілы...»

І царская літасць аб'явілася. Замест шыбеніцы — вечная турма.

Напісана пра Каладкевіча вельмі мала. На дзіва мала пры маштабнасці і значэнні гэтай фігуры ў гісторыі «Народнай волі». Ёсць толькі адны ўспаміны, што сапраўды хвалююча і поўна перадаюць дзівоснае аблічча Каладкевіча, багацце і трапяткую чуйнасць яго натуры. І гэта ўспаміны чалавека, якому... ні разу ў жыцці не давялося Каладкевіча ні пабачыць, ні пачуць!..

Зрэшты, што значыць — бачыць і чуць? Можна на працягу гадоў, дзесяцігоддзяў сустракацца, вітацца, абменьвацца прагнозамі надвор'я ці ўражаннямі ад газетных сенсацый — і не мець адзін пра аднаго ніякага ўяўлення. І можна....

Нарадаволец Пётр Сяргеевіч Паліванаў з 4 жніўня 1883 года па 24 ліпеня 1884 сядзеў побач з Каладкевічам у Аляксееўскім равеліне Петрапаўлаўскай крэпасці. Паліванаў — у камеры № 15, Каладкевіч — у камеры № 16. Адзінай формай іх зносін быў турэмны тэлеграф — перастук цераз сцяну. Адзінай, але як жа магутнай, жыватворнай, гаючай, калі ніякай іншай сувязі са светам вакол труны-адзіночкі, у якой ты схаваны, няма.

Сэрца сціскаецца, калі ў даўняй, 1906 года выдання, кнізе Паліванава «Аляксееўскі равелін» чытаеш, як знясілены, асуджаны на хуткую смерць ад цынгі Каладкевіч цярпліва стаіць на мыліцах каля сцяны— а прастаяць якіх дзесяць мінут на той час каштавала яму ўжо вялікіх намаганняў — і асцярожна, каб не пачулі турэмшчыкі, выстуквае пераможанаму адчаем таварышу словы суцяшэння і падтрымкі. «Яму я абавязаны тым, што не звар'яцеў ці не пакончыў з сабой на другі ж год зняволення», — пераканана піша Паліванаў. І далей: «Як ён мог так добра ўвайсці ў маё становішча, зразумець мой душэўны стан, не бачачы мяне, не чуючы нават майго голасу, — гэта так і засталося для мяне неразгаданай загадкай...»

Яго не стала 24 ліпеня 1884 года.

«21 ліпеня я віншаваў Каладкевіча з днём нараджэння, — чытаем у Паліванава, — і пажадаў яму многа, многа харошага, між іншым, каб у наступным годзе мы маглі святкаваць гэты дзень на волі. «О, калі б вы былі прарокам!» — адказаў ён і, сардэчна падзякаваўшы мне, сказаў, што яму вельмі б хацелася, выйшаўшы на волю, катануць са мною па ўсёй Волзе аж да Астрахані, бо ён ніколі не бачыў Волгі. Вельмі міла і задушэўна пагаварылі мы з ім, але на наступны дзень я заўважыў па стуку яго мыліц, што ён ходзіць мала і кепска, а ўвечары ён засмуціў мяне тым, што, паводле яго слоў, зноў у яго ногі пачалі «дурыць», наступным днём ён ужо не мог уставаць з пасцелі, і на працягу дня доктар прыходзіў да яго два разы. Раніцай, на трэці дзень, Каладкевіч памёр ціха, без усякіх стогнаў, нібы заснуў і — не прачнуўся.... Я некалькі разоў на працягу дня падыходзіў да сцяны і выстукваў усё гучней і гучней. «Мікалай, Мікалай!»—Не атрымліваючы адказу, я пачынаў яго упрошваць, каб ён, калі не можа падысці да сцяны, зрабіў бы нейкі знак: грукнуў кружкай аб стол ці аб падлогу мыліцай і, прачакаўшы некаторы час адказу, я кідаўся на ложак і, каб жандары не пачулі маіх рыданняў, тыцкаўся галавой у падушку і плакаў, як дзіця...»

●

«А МАЛЬ УСЕ ў раннім юнацтве з захапленнем схіляліся перад героямі тэрору...»

У гэтых ленінскіх словах — высокая ўдзячнасць і глыбокая павага да пакалення рэвалюцыянераў, суровыя спрэчкі з якімі не закрэслівалі для Ільіча іх дзівоснай духоўнай прыгажосці, іх крышталёвай маральнай чысціні, іх падзвіжніцкай сумленнасці.

Да пакалення, у пакутніцкіх шэрагах якога не зніклі, не згубіліся і двое, чый лёс нас зараз хвалюе.

...У вушах маіх гучыць шчымлівая лірычная мелодыя.

У вушах маіх гучыць рэквіем.

---

З пошты ЛіМ-а

## ПАТРЭБНЫ «БЮРО ДАВЕДАК»

Каб выдаць кнігу, яе абмяркоўваюць, рэцэнзуюць, уключаюць у тэматычныя планы, улічваюць попыт чытачоў, магчымасці распаўсюджвання тыража. Усё робіцца дзеля таго, каб выпусціць кнігу змястоўную, цікавую, патрэбную, каб яна знайшла свайго чытача.

Але ўсё роўна чытачу не лёгка разабрацца ў моры літаратуры. Вось чаму надзвычай важна палепшыць прапаганду кнігі, знайсці шляхі паляпшэння кніжнага гандлю. І тут робіцца нямала.

Вось мінскі магазін «Палітычная кніга», што знаходзіцца на вуліцы Карла Маркса. Тут вялікі выбар літаратуры. Прыцягваюць увагу кніжныя стэнды «Наша рэспубліка», «Новыя кнігі», «НОТ і тэхнічны прагрэс», «Літаратура па пытаннях партыйнага будаўніцтва», Заўсёды тут можна пагартаць падшыўку «Книжного обозрения», тэматычныя планы выдавецтваў, ёсць бланкі і паштоўкі для афармлення заказаў на літаратуру.

Ля аднаго з аддзелаў магазіна ўвагу прыцягвае надпіс: «Даведачна-бібліяграфічнае бюро. Наш тэлефон 22-94-10». Узначальвае бюро старшы тавараэнаўца Аляксандра Якаўлеўна Куцікава. Тут можна атрымаць усе даведкі па сваім магазіне, і такая інфармацыя мае вялікае значэнне для чытача.

Усё гэта — добра. Але і недахопы ў кніжным гандлі яшчэ ёсць. Многія кнігі не маюць ужо таварнага выгляду, патрабуюць уцэнкі і нават спісання толькі таму, што ў свой час дрэнна прапагандаваліся.

Год назад выдавецтва «Народная асвета» выпусціла ў свет педагагічныя эцюды І. Масткова «Чацвёрка па паводзінах». Іду па Мінску — пытаюся кнігу ў адным магазіне, другім, трэцім — нідзе няма. Цікаўлюся ў аддзеле вучэбна-метадычнай літаратуры Цэнтральнай кнігарні.

— Такой кнігі няма,— адказвае прадавец.

— Можа, яна ўжо распрадана ці яшчэ не паступіла?

— Не ведаю.

Працягваю разглядаць раскладзеную на прылаўку літаратуру. І раптам заўважаю патрэбную мне кнігу.

— Вось жа яна! — не вытрымліваю.

— Праўда? Нешта гэта кніга мне не запомнілася...

Прыкладна такую ж «дасведчанасць» праявілі некаторыя прадаўцы, калі пытаўся пра раман І. Шамякіна «Снежныя зімы» і іншыя выданні. Як проста сказаць — «няма», «не ведаю». А хто ж ведае? Паступіла кніга ў продаж ці яшчэ паступіць? Ці не час пазбавіць чытача ад малапрыемных і малаперспектыўных пошукаў? Неабходна ў кожнай кнігарні мець свае бюро даведак, як зроблена гэта ў «Палітычнай кнізе». Дарэчы, мне давялося бачыць тут надзвычай цікавую «Картачку пастаяннага пакупніка». Бланк бачыў. Калі яго запаўняць, можна заўсёды скласці ўяўленне аб попыце на тую ці іншую кнігу, калі і ў якім выдавецтве яна выйшла, калі і дзе паступіла ў продаж. Па ёй можна было б бачыць адносіны паміж чытачом - пакупніком і магазінам. На жаль, бланкі гэтыя не запаўняюцца, карысная справа ў магазіне не даведзена да канца. Дарэмна. І ў магазіне «Палітычная кніга» і ў іншых магазінах яна прынесла б шмат карысці.

**Я. ПРЭСМАН,**
рэдактар выдавецтва «Навука і тэхніка.

З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ

Саламея НЕРЫС

# ПЕСНЯ ВЫЗВАЛЕННЮ



*У выдавецтве «Беларусь» выходзіць зборнік вершаў Саламеі Нерыс «Калі зямля прачынаецца». Пераклала яго група беларускіх паэтаў.*

*Значнае месца ў гэтай кнізе займаюць вершы, напісаныя вядомай літоўскай паэтэсай у гады Вялікай Айчыннай вайны. У іх гучыць упэўненасць у перамозе над лютым ворагам, гонар за мужных савецкіх воінаў.*

*Пранікнёныя, усхваляваныя радкі прысвяціла Саламея Нерыс вызваленай Літве.*

*Сёння мы друкуем некалькі вершаў з кнігі «Калі зямля прачынаецца» ў перакладзе Юрася Свіркі.*



## Я ЦЯБЕ ЧАКАЛА

**Сонца знікла ў хмарах-кратах.**
**На душы трывога.**
**Прыляцеў лісток ад брата**
**З поля франтавога.**

**Пра яго пісалі хлопцы,**
**Падбіралі словы,**
**Што ён ворагам у бойцы**
**Пассякаў галовы.**

**Ён любіў сваю зямліцу—**
**Ганарыся братам.**
**Хочуць ветры пакланіцца**
**Смеламу салдату.**

**Ліст сцяжынкамі цяжкімі**
**Ледзь-ледзь змог дабрацца.**
**Ёсць і прозвішча, ёсць імя,**
**Толькі ўжо без братца.**

**Абяцаў:**
**Цябе, салоўку,**
**Восенню спаткаю.**
**А ты узяў сваю галоўку**
**Палажыў пад камень.**

1943.

## КАЛІ БУДУ ДАЛЁКА

**Калі я**
**Буду ад цябе далёка,**
**Там, дзе помніш ты мяне адну,**
**Твае алеі мне і вуліцы шырокія**
**Дрыготкімі агнямі падміргнуць.**

**Была Масква вялікая на ўсходзе,**
**І мы тады былі надзейна з ёй.**
**Мы чулі сэрцам,**
**Што на падыходзе**
**Фашыстаў крокі дзесь за цішынёй.**

**Калі на вежах зоркі патухалі,**
**Кружылася ад стратаў галава.**
**Той час**
**Мы самым храбрым называлі,**
**Іначай не маглі яго назваць.**

**Гісторыя такога і не знала,**
**Перамагчы —**
**Пад сілу толькі нам.**
**І рэха так далёка узлятала,**
**Хрыбты ўгінала будучым вякам.**

**Калі я**
**Буду ад цябе далёка,**
**Там,**
**Дзе мой край хацеў мяне страчаць,**
**Твае алеі, вуліцы шырокія**
**Салютам пераможным прагучаць.**

1944.

## ВЯРНІЦЕСЯ

**Сцяжынкай палахліваю,**
**Па кветках, па вясне**
**Прашу я дні шчаслівыя**
**Вярнуцца да мяне.**

**Ды шлях у іх закручаны.**
**Дзе ты,—**
**Мой светлы май?**
**Хоць ранены,**
**Хоць змучаны,**
**Мяне не забывай.**

**З'явіся ціхай згадкаю.**
**(Тры леты адышло).**
**Няхай,**
**Што рукі зябкія —**
**У сэрцы ж ёсць цяпло.**

**Няхай,**
**Што скроні ў інеі —**
**Ён не астудзіць нас.**
**І буду, баязлівая,**
**Нібыта ў першы раз.**

**За трапяткімі клёнамі**
**Не бачу родных хат...**
**О, дні мае зялёныя,**
**Вярніцеся назад!**

1944.

## СЯСТРА— СІНЯВОКАЯ ВІЛІЯ

**Вільняле,**
**Бяжы, бяжы у Вілію,**
**Зліся з ёй—да Нёмана спяшай**
**І скажы,**
**Што ўсе жыццё любілі мы,**
**Толькі больш мы любім родны край.**

**Перамога у змаганні заваёвана.**
**Мы вяртаемся,**
**Вяртаемся дамоў.**
**Раны вымыем вадзіцай дыстылёванай,**
**Перавяжам аксамітнасцю шаўкоў.**

**Запытайце кожны камень —**
**І адкажа ён:**
**Па якіх шляхах дадому мы ішлі,**
**І што ў бойках**
**Мы усе былі адважнымі,**
**І што смерць**
**Крывёй варожай залілі.**

**Сінявокая сястра,—**
**Мая ты Вілія.**
**Ты спяшай да Нёмана, бяжы**
**І скажы,**
**Што волю палюбілі мы,**
**Што без волі**
**Мы не можам жыць.**

1944.

# МАСТАЦТВА, ПРАЦА



**ПРАЦОЎНАЯ** слава Навападацкага нафтаперапрацоўчага завода, узнагароджанага ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, перасягнула межы нашай рэспублікі. Праславіўся гэты калектыў не толькі ўдарнай працай, але і сваім самадзейным мастацтвам. Не праходзіць дня, каб у Навапалацкім палацы культуры нафтавікоў не праводзіліся агляды, конкурсы, рэпетыцыі, заняткі па павышэнні майстэрства танцораў, спевакоў, чытальнікаў, аматараў драматычнага мастацтва і інструментальнай музыкі. Нядаўна ў Палацы культуры нафтавікоў Навапалацка адбыўся чарговы канцэрт мастацкай самадзейнасці.



На здымках — фрагмент з танца-карагода (справа ўверсе), жартоўная сцэнка «Кожны са сваім крэслам» (унізе) і фрагмент з літаратурна-музычнай кампазіцыі паэтычнага тэатра: выступае тэлефаністка Т. Ліхачова і завочнік Беларускага тэхналагічнага інстытута А. Малаток.

Фота і тэкст В. БАРХАТАВАЙ.



Георгій ВЫЛЧАЎ

# МЫ СУСТРЭЛІСЯ Ў ПРАЗЕ...

ПІСЬМО З САФІІ

НЯДАЎНА я быў у Празе ў камандзіроўцы. У час такіх паездак, як вядома, хапае ўсякай работы. Але былі ў мяне і цікавыя сустрэчы з людзьмі, задушэўныя размовы, у час якіх успаміналіся агульныя знаёмыя з Беларусі, абмяркоўваліся новыя праяўленні славянскай супольнасці, узаемных балгарска-беларускіх і чэшска-беларускіх сувязяў. Пра адну з такіх сустрэч, сустрэчу з вядомым беларусістам Вацлавам Жыдліцкім. ..

Вацлава Жыдліцкага я не буду вам прадстаўляць, у Беларусі досыць добра яго ведаюць як таленавітага чэшскага літаратара, вялікага знаўцу ўкраінскай і беларускай літаратуры. Напомню некалькімі радкамі пра яго лепшыя работы: грунтоўнае даследаванне «Беларуская літаратура», якое выйшла асобным выданнем на чэшскай мове ў 1966 г., кароткія і вельмі ўдалыя літаратурныя партрэты беларускіх пісьменнікаў у «Слоўніку савецкіх пісьменнікаў» (даведніку), які выйшаў у Празе ў тым жа годзе.

В. Жыдліцкі — першы у Чэхаславакіі даследчык чэшска-беларускіх літаратурных сувязяў. Працуе ў гэтым напрамку ён ужо даўно — з пяцідзесятых гадоў, амаль кожны год друкуе артыкулы па актуальных праблемах беларускай літаратуры. У сваіх лекцыях на філфаку Карлавага універсітэта, у навуковай і папулярызатарскай рабоце ён усё больш і больш увагі ўдзяляе беларусістыцы. За сваю нястомную дзейнасць В. Жыдліцкі заслугоўвае павагі і любві беларускага народа.

Мы сядзелі і шчыра размаўлялі ў ціхім старажытным рэстаранчыку за бутэлькай «Людмілы», і размова не магла не зачапіць нашых планаў у рабоце.

— Ведаеш, колькі часу займае выкладчыцкая работа? — скардзіўся ён. — А ў нас усе, хто вывучае славянскія літаратуры, павінны цэлы семестр слухаць лекцыі па беларускай літаратуры. Іх чытаю я, і трэба рыхтавацца ледзь не кожны дзень, бо можна адстаць. Ёсць у нас выкладчыкі па беларускім мовазнаўстве, фальклоры...

— Цікава б мне было з імі пагутарыць, але, мабыць, не выберу часу.

— Дык што табе назваць?.. Закончыў нарыс — агляд беларускай літаратуры сённяшніх дзён, шмат увагі ўдзяляю праблематыцы, якую ўздымаюць цяпер беларускія літаратары. Гэта зроблена для «Гісторыі сусветнай літаратуры», якую выдаюць харваты. Нядаўна артыкул выслаў ў Заграб. Наша выдавецтва «Адэон» выпускае бібліятэку «Слоўнік зарубежных літаратур». Шмат часу я аддаў «Слоўніку беларускай літаратуры», які выходзіць у гэтай бібліятэцы. У яго ўключаны нататкі пра ўсіх беларускіх пісьменнікаў. Даю і кароткія біяграфічныя звесткі, калі яны дапаўняюць літаратурны партрэт, ацэньваю стыль і характэрныя асаблівасці пісьменніцкай манеры, указваю бібліяграфію твораў, якія выйшлі на чэшскай мове. Што яшчэ? Працягваю рэцэнзаваць кніжныя навінкі беларускіх пісьменнікаў, якія выпускаюцца нашымі выдавецтвамі...

— А пераклады не закінуў?

— Першыя мае пераклады, калі памятаеш, выйшлі ў 1957—58 гадах — апавяданні Ц. Гартнага, К. Чорнага. Ну, а цяпер перакладаю дзве апошнія аповесці Уладзіміра Караткевіча, выйдуць асобнаю кнігаю.

Вацлаў Жыдліцкі ўспамінае таксама, што падрыхтаваў «Выбранае» з ранніх вершаў Янкі Купалы і твораў Максіма Танка, пачынаючы са зборніка «Мой хлеб надзённы». Перакладае іх вершы разам з маладым перакладчыкам Ільёй Гайслерам, чалавекам таленавітым, які добра адчувае асаблівасці мовы. Зборнік будзе прыгожа аформлены.

Разгаварыўся В. Жыдліцкі, і я пачуў яшчэ цікавыя думкі яго пра маладую беларускую літаратуру, якая пераадолела тэматычныя бар'еры, пра сучасную беларускую крытыку, якая набыла незвычайную сталасць і імкнецца ўсё ацэньваць толькі глыбока, з ужываннем параўнаўчага літаратурнага аналізу. Дасягненні сваіх пісьменнікаў яна разглядае на фоне дасягненняў сусветнай літаратуры...

Развіталіся мы з В. Жыдліцкім з упэўненасцю, што такія сустрэчы вельмі карысныя. У нас у Балгарыі штогод паблізу Варны сустракаюцца ўсе балгарысты Еўропы, разам абмяркоўваюць надзённыя праблемы ўзаемных культурных і літаратурных сувязяў, перакладаў. Мне здаецца, што гэты прыклад варты пераймання як чэхамі, так і беларусамі. Скажам, хіба кепска было б сустрэцца на нейкай канферэнцыі-нарадзе ў Мінску ўсім беларусістам?

Але гэта — мары. Я думаю, што яны калі-небудзь здзейсняцца, і мы збяромся ўсе разам для сур'ёзнай размовы ў вашай цудоўнай сталіцы.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Лявон КУДЛА

## ЛІШНЯЯ КРОПЛЯ

Начальнік упраўлення склікаў усіх кіраўнікоў аддзелаў, каб прыняць меры ўздзеяння да аднаго з работнікаў, які пачаў часта заглядаць у чарку.

Вінаваты сядзеў, панурыўшы галаву, ля стала. За сталом стаяў начальнік і, махаючы рукой, ушчуваў парушальніка працоўнай дысцыпліны:

— Што ж гэта вы робіце, таварыш Грушка! Мала таго, што падрываеце аўтарытэт нашай установы, вы падрываеце і сваё здароўе. Ці ж вам не вядома, што гарэлка — атрута? Адна шклянка яе...

Начальнік прывёў некалькі пераканаўчых лічбаў, якія сведчылі аб забойнай сіле алкаголю на жывы арганізм, і працягваў:

— Ды што адна шклянка! Нават палова шклянкі...

У гэты момант са свайго месца падняўся загадчык аддзела культмасавай работы Кошык і, выцягнуўшы доўгі палец, драматычна ўставіў:

— ...Нават адна кропля, таварыш начальнік...

— Так,—з запалам працягваў начальнік, — нават адна кроп...

— Ну, адна кропля нічога, — зірнуўшы незадаволена на занадта руплівага падначаленага, абарваў начальнік, — гэта ты кінь, Кошык...

Пад рогат усіх прысутных збянтэжаны Кошык сеў на сваё месца.

## СПРАБУЙ УТРЫМАЦЦА...

Майстар пераплётнага цэха паскардзіўся начальніку:

— Рабочыя расцягваюць кніжкі. Баюся, пры здачы на склад будзе недастача.

— Не хопіць — будзеш плаціць са сваёй кішэні, — абыякава адказаў начальнік.

— Добры гандаль, — абурыўся майстар. — Калі часцей будуць друкаваць такія кніжкі, як гэта, — я застануся без палучкі.

— А што — цікавая? — ажывіўся начальнік.

— Рагочуць усе. Сам не вытрымаў, прачытаў.

У час абедзеннага перапынку заклапочаны начальнік ішоў праз прыцішаны цэх. Ля стоса новых кніг азірнуўся і сунуў адну ў кішэню...

## ЮБІЛЯР ВЫРУЧЫЎ

Малавядомаму пісьменніку Алесю Іванавічу Масловічу споўнілася пяцьдзесят гадоў. Павіншаваць яго прыйшлі сябры, сярод якіх і два вядомыя пісьменнікі.

Селі за стол. Юбіляр запрасіў гасцей наліць чаркі. Заставалася ўзняць тост.

І ўсе прыціхлі: што сказаць? Хваліць юбіляра будзе няшчыра, а крывіць душой нікому не хацелася.

Але ж усё ж нешта трэба сказаць. Чаркі чакаюць.

І тады ўстаў сам юбіляр:

— Дарагія сябры, — сказаў ён са шчырым хваляваннем, — сёння не абы які юбілей. Я прапаную падняць тост за пісьменніка, якога ўсе вы добра ведаеце і любіце. Творы якога вы чыталі і захапляліся і якія пакінулі ў вашым сэрцы глыбокі след...

Вядомыя пісьменнікі недаўменна пераглянуліся.

— Што ён, з глузду з'ехаў? — шапнуў вядомы пісьменнік другому вядомаму пісьменніку. Той толькі паціснуў плячыма. І абое яны ўткнуліся носам у талеркі.

А юбіляр, не чырванеючы, працягваў:

— Я ўпэўнены, што творы яго будуць жыць у стагоддзях...

Хтосьці кашлянуў, хтосьці папярхнуўся, яшчэ не прыгубіўшы чаркі.

— Я прапаную, — закончыў патэтычна юбіляр, — падняць тост за Аляксандра Іванавіча Герцэна, якому якраз сёння спаўняецца сто пяцьдзесят год з дня нараджэння.

Усе ўздыхнулі з палёгкай і выпілі з вялікай прыемнасцю.

## КАЛЕЙДАСКОП

### ВІЗІТ

Пан Кавальскі выбраўся праведаць знаёмага. На парозе яго страчае вялікі бульдог.

— Заходзьце, калі ласка! — гаворыць гаспадар.

— А сабака мяне не ўкусіць?

— Мне самому цікава, бо ён у мяне толькі першы дзень.

### СЫНОК

Маці звяртаецца да Вані, які не любіць малога брацікa Пецю:

— Прадам, відаць, Пецю...

— Не прадавай, мама, — просіць Ваня. — Пачакай, пакуль ён падрасце. Тады за яго больш дадуць.

### ВЫБАР

— Так далей працягвацца не можа, — гаворыць ўрач пацыенту. — Як відно, ваш дэвіз такі: «Віно, жанчыны, скокі». Ад нечага вы павінны адмовіцца!

— Ну што ж, у такім разе я адмаўляюся ад скокаў.

### САМАСТОЙНАСЦЬ

— Мама, — звяртаецца дачка да маці, — папрасі тату, каб ён даў мне грошай на кішэнныя расходы.

— Папрасі сама. Неўзабаве ты выйдзеш замуж. Самы час, каб пачала прывыкаць да самастойнасці.

### ЗАНАДТА МАЛЫ

— Тата, нежанатага мужчыну называюць жаніхом? — пытаецца малы Янак.

— Але.

— А як называюць жанатага?

— Ты яшчэ занадта малы, каб ведаць такія слоўкі!

### НАЙЛЕПШАЕ ВЫЙСЦЕ

— Набліжаецца дзесятая гадавіна шлюбу Пуцялкаў. Як мы лепш адзначым гэту дату?

— Ведаеш, будзе найлепш, калі мы аб гэтым ім не напомнім.

### СУЧАСНЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ

— Сучасныя дзяўчаты выходзяць замуж значна раней...

— І значна часцей...

### Я НЕ КРЫТЫКУЮ...

Певень паказвае курам яйка страуса і гаворыць:

— Я вас не крытыкую, але ўсё ж хачу звярнуць вашу ўвагу, шаноўныя, як працуюць за мяжой.

### НЕ ТАКАЯ НОВАЯ...

Мужчына жэніцца ў другі раз і пытаецца ў свайго сына:

— Ну як, сынку, падабаецца табе наша новая мама?

— Ведаеш, тата, я непакоюся, што цябе, відаць, ашукалі. Яна зусім не такая новая.

### НАТУРАЛЬНА

— Кахаеш свайго мужа?

— Натуральна! Я наогул люблю мужчын!

Падрыхтаваў І. СКУРКО.

Марат БАСКІН

## ХОБІ

— У нашага Андрэя Палікарпавіча — хобі, — паведаміла лабарантка Светачка. — Учора ў раёнцы пра яго нарыс. Дзве тысячы гузікаў назбіраў. Нават з часоў Архімеда адзін ёсць.

— Колькі гадоў побач з намі працуе, а мы даведваемся пра яго хобі з раёнкі, — развёў рукамі тэхнік Сінічкін.

— Зараз пра яго, напэўна, і абласны друк напіша,—задуменна прамовіў інжынер Полазаў. — І турысцкія пуцёўкі яму без чаргі выдаваць будуць. А, можа, і на пашырэнне кватэры пастаўяць—трэба ж гэтым гузікам месца.

— Падумаеш, гузікі! Можа, і ў мяне ёсць хобі, — раптам прамовіў старшы тэхнік Шматкоў.

— А я ў вольны час тэлевізар збіраю, — сказаў Сінічкін.

— Гэ, тэлевізар! Гэта— прафесійнае ўдасканаленне, — перабіў яго Шматкоў.—Вось я, напрыклад, паперкі ад цукерак калекцыяніраю. У мяне, можа, ужо цэлы даведнік па цукерачнай прамысловасці!

— Я ж не радыётэхнік, —асцярожна зазначыў Сінічкін.—Я ж электрык.

— А не ўсёроўна? — спытаў, як адрэзаў, Шматкоў.

— А ў мяне калекцыя бутэлечак з-пад духоў,— Светачка ўсміхнулася і дадала: — Ёсць нават польскія «Можа быць»...

— Я ж гэты тэлевізар дзесяць гадоў збіраю. Да ўсяго сам даходжу,— зноў заенчыў Сінічкін.

— Ну, калі дзесяць гадоў, то гэта, канечне, хобі,—пагадзіўся Шматкоў.

— А я з сённяшняга дня пачынаю займацца філатэліяй, — сказаў памочнік шэфа Памазок і адарваў ад канверта, які ўжо з тыдзень ляжаў на стале, вялізную сінюю марку.

Праз некаторы час хобі ахапіла не толькі наш аддзел, а ўсё прадпрыемства. Адкрываліся секцыі філатэлістаў, нумізматаў, этыкетчыкаў і г. д. Толькі я адзін усё чагосьці чакаў. І дачакаўся. Тры дні назад у мяне ўзялі інтэрв'ю для «Вячоркі».

— Вы адзіны чалавек на прадпрыемстве, які не мае хобі?

— Але.

— Вас не ахоплівае добрая зайздрасць, калі вы бачыце, як ваш таварыш збірае паперкі ад цукерак альбо маркі?

— Не.

Пытанняў было шмат.

А сёння мяне выклікалі ў заўком і далі турысцкую пуцёўку.

— Вы адзіны ў нашым калектыве, які не мае хобі, — паціскаючы руку, сказаў мне старшыня заўкома. — І мы проста абавязаны паклапаціцца аб тым, каб вы таксама цікава праводзілі свой вольны час.

І я паехаў. У мяне з дзяцінства хобі — падарожнічаць!

С. ПАПАР

## ПРАЦОЎНЫЯ БУДНІ

*ЛІТАРАТУРНЫ ЖАНР — ЕРАЛАШ*

**Пытаецеся, як жыву!**
**Раблю—з прыцема ў прыцем,**
**Раблю, што прыйдзе ў галаву,**
**І што ў галаву не прыйдзе.**
**Скокну ў ельнік рыбкі злавіць,**
**Набяру на возеры шышак...**
**А то з ланцугоў дратву віць**
**Бяруся, як часу лішак.**

**Летам у студні сена сушу,**
**Лёдам печку таплю узімку...**
**Сёння на стрэхах (я не хлушу)**
**Бульбы набраў карзінку.**
**Бывае, што некалі адпачыць,**
**Ад непрасыпу: ахвота ж...**
**А палец аб палец ударыш —**
**Баліць...**
**Таксама кажуць—работа.**

Валянцін СТАЛЬМАХОЎ

## У МАЙСТЭРНІ МАСТАКА

*— Партрэт вельмі прыгожы, але, ведаеце, падабенства неяк згублена.*

*— Ну, выбачайце, даражэнькі! Я—мастак, а не фатограф!*

⊙

*— Чаму ты не працуеш сёння?*

*— Штосьці няма ахвоты. Дыці не ўсёроўна, калі я зраблюся славутым: днём раней альбо днём пазней?*

⊙

*— Скажы мне, калі ласка,— звяртаецца да мастака жонка, —чаму ты заўсёды пішаш жанчын-бландзінак?*

*— Таму, душа мая, што ты— брунетка!*

Мікола НАВІЦКІ

## РАЗВОД ПА-АМЕРЫКАНСКУ

**Юная пара прыйшла да папа:**
**— Блаславі нас, айцец!**
**Нас задаволіць сена капа!**
**Без шлюбу—нам канец!**
**А як мінуў не поўны год,**
**Прымчалі ў папоўскі дом:**
**— Айцец, зрабі наадварот.**
**Бо разам мы памром!**

**Нахмурыўся поп і гнеўна**
**сказаў:**
**— Што вы—то круць,**
**то верць!**
**Вы ж пакляліся ля абраза—**
**Разлучыць вас толькі смерць!**

**— Не пакарай, о святы айцец!**
**Хутчэй развод давай!**
**Долар мужык трымаў у руцэ,**
**Жонка трымала два.**

**— Нясіце ката сюды, покі**
**я дуж,—**
**Сказаў айцец наўпрост.**
**Кату за вушы ўчапіўся муж,**
**Жонка цягнула за хвост.**

**Схапіў кухонны нож айцец,**
**Нябогу рассек напалам.**
**— Глядзіце: вас разлучае**
**смерць,**
**Дае свабоду вам.**

Мікола ВЯРШЫНІН

## 2=4

*Георгій ЮРЧАНКА.*

У творцы — два радкі,
Ў пародыі — чатыры...
Але памер такі
Мне цесны, скажу шчыра.

У чатырох радках
Не вельмі шмат і скажаш
У іх не той размах,
І аўтара не спляжыш.

Я разлічуся з ім:
Яму ўсё ж дастанецца..,
А ганарар, між тым,
Нам за радкі даецца.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 33-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 09301